

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

25 МАЯ 2001г. № 21/4105 КОШТ 127 РУБ.

## 29 МАЯ АДБУДЗЕЦЦА XIII З'ЕЗД САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на "ЛіМ" на другое паўгоддзе 2001 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **690** рублёў, на тры — **2070** рублёў, на паўгода — **4140** рублёў. Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — **1800** рублёў, на тры — **5400** рублёў, на паўгода — **10800** рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

**Ведамасны індэкс — 63857.**

*Вільня... Тут нараджалася беларуская кніга*

*Фота А. КАЛЯДЫ*



## КОЛА ДЗЁН

***Гэтыя тры падзеі другой паловы мая нібыта й не звязаны між сабою: усебеларускі народны сход, з'езд Таварыства беларускай мовы і маючы адбыцца ў наступны аўторак з'езд Саюза пісьменнікаў краіны. Аднак жа ёсць адзін аспект, які зближае і лучыць іх. Аспект гэты — моўны, і ён, як ужо даўно, — трывожны. Сёння мо трывожны, як ніколі. І падзеі згаданыя, няхай сабе й ускосна, яшчэ раз пацвердзілі гэта. Вось усебеларускі народны сход... А між тым, на ім практычна не гучала слова на роднай мове. Вось з'езд ТБМ. Зноў жа: галоўны клопат таварыства — не аб чысціні і развіцці роднай мовы, а — яе зберажэнні, выжыванні! І нарэшце маючы адбыцца з'езд Саюза пісьменнікаў. Аб чым пойдзе на ім гаворка? Вядома ж, пра набыткі нашай літаратуры апошніх гадоў, пра клопаты, праблемы і задачы пісьменніцкай арганізацыі, аднак жа несумненна і абавязкова — і пра становішча нашай роднай мовы, якое найперш і спараджае сённяшнія літаратурныя і кнігавыдавецкія нялёгкія, невырашальныя сітуацыі, тупіковыя варункі...***

### *ПІСЬМО ТЫДНЯ*

Яго прыслаў у "Народную волю" жыхар Брэста Пётр Гарбуноў. Яму давялося адпачываць у санаторыі "Белая Русь" на тэрыторыі Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Добра адпачыў, падмацаваў здароўе чалавек, тым не менш паехаў дадому не ў лепшым настроі. Чаму? Міжволі звярнуў увагу на тое, што ў тым нацыянальным парку літаральна ўсе шыльды, надпісы і абвесткі — на рускай мове. Асабліва "расчуліла" П. Гарбунова назва прыбярэжнага кафэ — "Розовый фламинго". На беразе Нарачы — фламінга! Вось брэстаўчанін і напісаў ліст у газету, назваўшы яго гэтак: "А тут жа — беларуская зямля!" Спадар Гарбуноў заўважыў гэткую сацыялінгвістыку ў Нарачанскім краі, а яна ж не толькі там, а, на жаль, паўсюдна ў нашай краіне. І як не сказаць услед за абураным аўтарам ліста: "А тут жа — беларуская зямля!"

### *ТРОЙКА ТЫДНЯ*

Цэнтр эканамічнай адукацыі Каліфарнійскага універсітэта (ЗША) правёў Міжнародны адукацыйны конкурс па навучанні рабоце на фондавым рынку праз Інтэрнэт. У конкурсе прыняло ўдзел 1220 каманд з розных краін свету. І дайце веры: трэцяе месца заняла тройка нашых юнакоў — Аляксей Акейчык, Андрэй Гусеў і Цімафей Кузмініч. Хлопцаў падрыхтаваў грамадскі Цэнтр падтрымкі і развіцця юначага прадпрымальніцтва. Набытыя здольнасці нашы прызёры не могуць, на жаль, прымяніць на радзіме, наша рынкава-сацыялістычная эканоміка не дае такіх магчымасцей, тым не менш — хлопцы перамаглі. Праўда, у іх няма сродкаў паехаць у ЗША на афіцыйнае ўзнагароджанне, аднак жа не парадавацца за іх — нельга. Слушна пісаў паэт: "Досыць нас абуваць у лапці!"

### *ЗАРОБКІ ТЫДНЯ*

Паводле паведамленняў Міністэрства статыстыкі і аналізу, сярэдняя налічаная зарплата ў красавіку склала 105 тысяч 774 рублі, або прыкладна 77 долараў ЗША. У параўнанні з сакавіком рост намінальных заробкаў склаў 3,8, а рэальных, з улікам змяненняў цэн на тавары і паслугі, — 0,5 працэнта. Як бачна, заробкі нашы практычна "замерзлі" — стаяць на адным месцы, а ў некаторых галінах (адукацыя, лясная і жыллёва-камунальная гаспадаркі) нават знізіліся. Ну, а цэны між тым растуць — з пачатку года яны выраслі амаль на дваццаць працэнтаў...

### *"АДМОЎНІКІ" ТЫДНЯ*

Дэмаграфічная сітуацыя ў краіне па-ранейшаму застаецца трывожнай. Беларусь — адна з тых нямногіх краін, дзе каторы ўжо год няма звычайнага ўзнаўлення насельніцтва. Карацей — няма яго натуральнага прыросту. Рэзка знізілася нараджальнасць. Калі ў 1990 годзе нарадзілася 142 тысячы дзяцей, дык летась — усяго 94 тысячы. Яшчэ больш рэзка павялічылася смяротнасць. Летась, скажам, на згаданыя 94 тысячы народжаных памерла амаль 150 тысяч чалавек. Абвастрае сітуацыю і такі фактар, як рост колькасці дзяцей, ад якіх адмаўляюцца бацькі. Гэта дзеці з так званых асацыяльных сем'яў. Дык вось, калі ў 1990 годзе са згаданых 142 тысяч народжаных дзяцей у дзіцячыя дамы паступіў 241 малыш, дык з 94 тысяч, народжаных летась, — ужо 735 немаўлят прынялі дзіцячыя дамы. Што ні кажыце, а робіцца ў нас нешта не тое...

### *ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ*

У вёсцы Лунна Мастоўскага раёна рашэннем мясцовага сельсавета вуліцы Элізы Ажэшкі (пісьменніца нарадзілася ў гэтых мясцінах) зноў вернута старая назва — Камсамольская. Ініцыятарамі гэтай акцыі выступілі мясцовыя камуністы, падтрыманыя ветэранамі. Малазначны факт? Няхай сабе й малазначны, аднак жа — сімптаматычны...

### *ЗАКАЗНІК ТЫДНЯ*

Пастановай Савета Міністраў Беларусі ўтвораны рэспубліканскі ландшафтны заказнік "Траскоўшчына". Плошча яго — амаль 800 гектараў, размешчаны ён на тэрыторыі Мінскага раёна там, дзе бярэ пачатак паэтычная рэчка Іслач. Заказнік створаны ў мэтах захавання унікальнага ландшафтнага комплексу, які характарызуецца біялагічнай разнастайнасцю і знаходзіцца ў стане ўстойлівай дынамічнай раўнавагі. Яшчэ адзін заказнік — гэта, вядома ж, добра. Тым больш, пад Мінскам, тым больш — у вярхоўі Іслачы, адной з нямногіх нашых рэчак, у якой водзіцца адмысловая рыба стронга...

### *ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ*

Многія жыхары памежных раёнаў ператварылі паездкі за мяжу ў крыніцу дадатковага заробку, а сёй-той наогул жыве з гэтага: возяць (па некалькі разоў за суткі) і прадаюць там гарэлку і цыгарэты, зарабляючы такім чынам за дзень 10 і больш долараў. З гэтага немалы час жыў і адзін жыхар Гродна. Вазіў у Польшчу гарэлку. Само сабою, хітраваў: на час памежных праверак хаваў "лішнія" пляшкі на даху электрычкі. Скончылася для яго ўсё трагічна: на даху вагона хлопца забіла электратокам. Шкада небаракі! Толькі ж ці будзе гэтая трагедыя навукаю іншым? Наўрад. Жыць жа неяк трэба, а лёгкі і, галоўнае, немалы (як для нас) заробак — спакушае...

### *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

— Але калі ў краіне знікаюць людзі — хіба гэта нармальна?

— Так, гэта кепска. І вы правільна пішаце: выкраданні праведзены прафесійна. Але сёння нельга сказаць адназначна, што міліцыя працуе дрэнна, што міністр працуе дрэнна... З другога боку, сапраўды, калі не знайшлі, значыць, працуем дрэнна. І нікуды не ўцячы ад такой ацэнкі. Гэта як з сітуацыяй на Нямізе. Фармальна вінаватых няма. Але ёсць сітуацыі, дзе яны павінны быць "прызначаны". Разумееце? І я таксама не справіўся. За тых людзей, якія прапалі ў маю бытнасць міністрам, я нясу поўную адказнасць і перад народам, і перад сабой. З пасаднага пункту гледжання я не справіўся са сваімі абавязкамі. З маральна-псіхалагічнага пункту гледжання таксама ёсць праблемы. Але вы не кажыце, што мы іх не знайшлі, бо не шукаем, не хочам шукаць. Спецыялісты правялі вялікую работу. Але што рабіць, калі няма слядоў, калі іх няма...

(З інтэрв'ю намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Ю. Сівакова. "Белорусская деловая газета", 22 мая г.г.)

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Пад старшынствам в.а. старшыні СБП Вольгі Іпатавай адбылася чарговая рада Саюза беларускіх пісьменнікаў. Асноўным яе пытаннем стала падрыхтоўка да 13-га з'езда СБП, які адбудзецца 29 мая ў Доме літаратара. Аб выніках работы камісіі па падрыхтоўцы да з'езда далажыў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч. У абмеркаванні яго паведамлення прынялі ўдзел Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, В. Адамчык, Г. Далідовіч, А. Мальдзіс, В. Зуёнак, А. Жук, У. Паўлаў, В. Блакіт, С. Законнікаў, А. Каско, Ф. Сіўко, У. Някляеў і іншыя. Было выказана нямала прапаноў.

На радзе таксама было разгледжана пытанне аб прыёме ў СБП. Новымі сябрамі пісьменніцкай арганізацыі сталі Валянціна Кукса, Павел Гаспадыніч, Анатоль Мяснікоў, Сяргей Рублеўскі, Янка Лайкоў, Валерый Стралко.

**Н.К.**

# ТБМ. Сёмы з'езд

Спадзяюся, будзе час, калі моўнага пытання ў нашай краіне нарэшце не будзе. Не, зразумела, не ў тым сэнсе, што "няма мовы — няма праблемы" (па аналогіі са сталінскім "няма чалавека — няма праблемы") — а проста для грамадзян Беларусі беларуская мова стане такой жа натуральнаю, як ангельская для ангельцаў і нямецкая для немцаў. І таварыства беларускай мовы, як гэта і мае быць у цывілізаванай краіне, будзе займацца пытаннямі развіцця і ўдасканалення мовы, а не праблемаю яе выжывання. Зрэшты, прыклад шэрагу народаў, і найперш нашых братоў чэхаў, сведчыць пра тое, што мова, здавалася б, пахаваная, выцесненая з уласнай краіны, здольная паўстаць з нябыту і забяспечыць нацыі "пачэсны пасад між народамі".

Чэшскі прэцэдэнт, дарэчы, згадваўся на чарговым, сёмым з'ездзе Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што прайшоў 20 траўня. Згадваўся ў прамове намесніка кіраўніка дыпламатычнай місіі ЗША Джона Кунстатара. Спадар Кунстатар вітаў з'езд на добрай беларускай мове. З'езд віталі Радзім Гарэцкі ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Вольга Іпатава ад Саюза пісьменнікаў, Вінцук Вячорка ад БНФ, Аляксей Кароль ад Сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады), праваабаронцы Вера Страмкоўская і Валерый Шчукін, вядомыя палітыкі Сямён Домаш (ён даслаў ліст), Міхаіл Чыгір, Павел Казлоўскі ды іншыя, неабыякавыя да лёсу Бацькаўшчыны людзі.

На з'ездзе разгарнулася палеміка адносна праграмных дакументаў — "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі" і "Дэкларацыі аб беларускай мове". Адны, зыходзячы, так бы мовіць, з "аб'ектыўнай рэчаіснасці", выступалі за стрыманыя і ў пэўным сэнсе двухсэнсоўныя праграмныя фармулёўкі. Другія заяўлялі, што калі ўжо Таварыства беларускай мовы пачынае азірацца на ўрадавы "білінгвізм", дык давядзецца ставіць крыж на беларушчыне ўвогуле. "Дэкларацыя" нарэшце была прынята, але было агаворана права рэдакцыйнай камісіі на стылёвыя праўкі, а прыняцце "Стратэгіі" адкладзена на сур'ёзную дапрацоўку. Быў таксама прыняты зварот да Вярхоўнага камісара ААН аб парушэнні правоў чалавека (моўны аспект) у Беларусі. Старшынёю таварыства зноў абраны Алег Трусаў. Рада цяпер складаецца з 51 чальца. Спецыяльная пастанова датычыць дысцыпліны ў кіруючых органах таварыства.

Не атрымліваецца ў нас пакуль мовы, культуры па-за палітыкаю. Але склад назіральнікаў і гасцей з'езда — гэта прадстаўнікі ўрадавых структур (хай і не вельмі высокага рангу), амбасадаў, палітычных партый — сведчыць, што і палітыка ў нашай краіне не можа ігнараваць культуру. Добры знак.

**П.В.**

*ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА*

# Усвядоміць адказнасць

Перш за ўсё павінен выказаць шкадаванне, што "трыбуна", пры цяперашняй сітуацыі крайне патрэбная, можна сказаць, зусім не скарыстана. З'явіўся адзін толькі ўласна перадз'ездаўскі матэрыял — гэта допіс Д. Бічэль ("ЛіМ", 18.05.2001). Што ж атрымліваецца? Хіба ж паўтысячы прафесійных пісьменнікаў намерыліся праводзіць свой з'езд як масоўку-тусоўку слепа-глуханямых, акрамя таго — непісьменных, а ў дадатак нямоглых інтэлектуальна і духоўна? Няўжо карпарацыя творчых асоб зноў абмяжуецца выгукамі з залы ды тупатам і свістам пры выступленнях дзесятка запісных прамоўцаў? Які ж толк з гэтага? Хоць смейся, хоць плач, што называецца.

Таму, каб Данута Іванаўна не пачувалася так, быццам гукае ў пустыні, лічу неабходным таксама далучыцца са сваімі, няхай сабе неўпарадкаванымі, меркаваннямі, адштурхоўваючыся ад слоў Дануты Іванаўны: "Перад тым, як бегаць <...> і плакаць <...>, добра было б навесці нейкі парадак у Саюзе пісьменнікаў увогуле і кожнаму ў сваёй галаве ў прыватнасці".

Сапраўды, як ні круці, а трэба прызнаць, што становішча ў нашай арганізацыі ненармальнае. Нават горшае, чым было перад мінулым з'ездам. Тое ж самае даводзіцца гаварыць і пра статус яе ў дзяржаве, у грамадстве.

Вядома, за гэта нясуць адказнасць канкрэтныя асобы, якія бралі на сябе абавязкі нармалізаваць сітуацыю і атрымалі адпаведныя паўнамоцтвы чатыры гады назад. Але сваю віну за ўсё, што адбываецца, павінен прызнаць таксама кожны з нас. Адпаведна вось што галоўнае зараз: поўная шчырасць, прынцыповасць ацэнак зробленага кожным і ўсімі разам, але пры гэтым агульныя намаганні не пераўтварыць з'езд у высвятленне адносін, г.зн. у звычайную зваду, роўна як і ў чарговы палітычны мітынг з непазбежным сутыкненнем адзінак і груповак.

Ці выйдзе так, як трэба? Пакуль што звычайна чуецца сярод калег: "Пачакаем — убачым". Усё ж такі не лепшая гэта пазіцыя для людзей з амбіцыямі ў розных планах — творчым, інтэлектуальным, духоўным, грамадскім, нават палітычным. Бадай, маляваць калектыўны партрэт пісьменніцкай суполкі — справа нялёгкая, рызыкоўная, ды і не мая гэтым разам. Але тое, пра што ішла гаворка, здаецца, не лішнім было б удакладніць на паралелі. Вось яна.

Побач з Домам літаратара на Свіслачы пры шлюзіку, створаным рукамі "цароў прыроды", здаўна і летам, і зімою жывуць качкі (нібыта вольныя), якія выклікаюць пэўную ўвагу прахожых, часам атрымліваюць ад іх крошкі, аб'едкі піражкоў, нават цэлыя булкі. Канкрэтнае становішча былых пералётных, а цяпер "асвойтаных", залежыць ад таго, хто кіне і што кіне. Ды нехта некалі ж усё роўна кідае.... І што ж у выніку?.. Перад намі стварэнні, якія страцілі генетычны код. У прыватнасці, яны забыліся, што трэба здабываць ежу годна сваёй прыродзе, што трэба ўздымацца ўвысь, час ад часу лятаць у вырай і вяртацца. Дарэчы, вяртацца не ў забруджаную і атручаную зону вялікага горада, а туды, дзе забяспечваецца жыццё чыстае і правільнае, хоць і з неабходнасцю выконваць шматлікія цяжкія (!) функцыі, прызначаныя Тварцом (каму не падабаецца фармулёўка, чытай: прыродай). Аднак у птахаў — вольных, паводле першаснага азначэння, назвы і выгляду — спрацоўвае адно тое, што І.Паўлаў называў першай сігнальнай сістэмай. Дастаткова, што яны спажываюць і выжываюць, прычым — не горш, а ў чымсьці і лепш за аднапляменнікаў. Ёсць, як адчуванне і як імкненне, здаволенасць, гэта — аснова асноў. Праўда, застаецца-такі пытанне пра адпаведнасць іх правільнай класіфікацыі суадносна

# Пазбегнуць радыкальных перамен

1. Па першым пытанні: шукаць шляхі **актывізацыі** членаў СП і прыцягнення грамадскай увагі да творчасці беларускіх літаратараў. Патрэбна рэклама, даступная і танная (на суперсучасную, як разумею, не хапае фінансаў). У рэкламных і інфармацыйных мэтах трэба ў поўнай меры выкарыстоўваць ТЭЛЕФОН і ПІШУЧУЮ МАШЫНКУ. Не баяцца лішні раз патрывожыць некага. Думаецца, знойдуцца і альтруісты, для якіх галоўнае не ганарары, а дапамога для ратавання духоўнасці і беларушчыны ў нялёгкі час. Шкада, што ні ў метро, ні на вуліцах Мінска няма інфармацыі аб месцазнаходжанні Дома літаратара, не выкарыстоўваецца радыё і тэлебачанне так, як гэтага хацелася б, хаця там працуюць і члены нашай арганізацыі.

2. Асаблівых, вельмі значных дасягненняў, здаецца, не было, "планка" засталася на ўзроўні папярэднікаў. Можна адзначыць перaклад Уладзімірам Скарынкіным (завяршэнне яго тытанічнай працы) "Боскай камедыі" Дантэ. Мне асабіста запомніліся творы І. Пташнікава "Пагоня" і М. Гіля "Як спёкся папуас", "Кліч роднага звону" Г. Далідовіча, "Сказ пра Лігу Чыстакроўных..." Мікалая Яцьвяг-Тубылеца, выхад кніжкі сатырычных паэм нашага часу "Гэй, наперад! Гэй, назад! Ачмурэнне". Радавалі сваёй творчасцю Барадулін, Гілевіч, Іпатава, Грахоўскі, Шамякін, Мятліцкі, Камейша, Чобат і шмат хто іншы, усіх цяжка і пералічыць. На жаль, сувязь з чытачамі па шэрагу аб'ектыўных прычын жадала б лепшага.

3. Пазбегнуць радыкальных перамен, "коней на пераправе не мяняюць" (ці як там дакладней і правільна). Хацелася б бачыць на чале СП Вольгу Іпатаву, Навума Гальпяровіча, Генрыха Далідовіча, Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законнікава. Хацелася б, каб будучыя кіраўнікі ўмелі своечасова гасіць полымя радыкалізму як з левага, так і з правага бакоў, супрацьпастаўляючы эмоцыям спакойнасць, пераканаўчасць і розум. Ні ў якім разе нельга даваць верхаводзіць у СП староннікам крайнасцей з палітычным ухілам, якія вельмі прыгожа крычаць і мала могуць на справе. Калі яны такія непрымірымыя, разумныя, правільныя, смелыя, то ў знак пратэсту могуць выйсці з нашай арганізацыі, а час усё расставіць на месцы. Развальваць жа тое, што створана папярэднікамі, няхай сабе магчыма і з шэрагам памылак, — неразумна. Трэба шукаць новае на нядрэнным падмурку, дый сцены, здаецца, пакуль не згнілі. Калі прыгледзецца добра, то беларуская літаратура па мастацкіх якасцях трымаецца на прыстойным узроўні, іншая справа, што мова беларуская ў загане. Усе спадзяванні на будучыню...

**ЯнусьМАЛЕЦ**

## Засыпалі кветкамі...

**Больш за сто кніг з уласнага кнігазбору падарыла Глыбоцкай раённай бібліятэцы пісьменніца Вольга Іпатва. Сярод іх — толькі што выдадзеныя творы В. Быкава, У. Караткевіча, Л. Геніюш, зборнікі вершаў беларускіх паэтаў Н. Гальпяровіча, В. Аксак, Н. Мацяш.**

**Выступленне пісьменніцы ў раённым цэнтры рамёстваў было змястоўным і цікавым. У перапоўненай зале, дзе сабралася мясцовая інтэлігенцыя і навучэнцы школ, разам з ёю выступілі паэтэсы Марыя Баравік, краязнаўца Іван Волкаў. Гучалі вершы, напісаныя тут, на глыбоцкай зямлі. Раман "Залатая жрыца Ашвінаў", з якім пісьменніца прыехала на сустрэчу, быў таксама створаны на Глыбоччыне, і, як адзначыла загадчыца раённай бібліятэкі Ніна Протас, напісаны ён з любоўю да роднай Беларусі і на высокім мастацкім узроўні.**

**У канцы вечарыны пісьменніца адказала на шматлікія пытанні. Яе літаральна засыпалі кветкамі — зараз, у гэтую майскую пару, у гародчыках глыбачан цвітуць бэз і цюльпаны, якіх удзячныя чытачы не пашкадавалі для творцы, што часта бывае ў іхнім гасцінным і прыгожым краі.**

**Наш кар.**

## Паставы віншавалі пісьменніка

**У Паставах адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 65-годдзю паэта і празаіка Аркадзя Нафрановіча. Павіншаваць юбіляра прыйшлі школьнікі, настаўнікі, прыхільнікі яго творчасці. Шмат удзячных слоў выказалі пісьменніку прадстаўнікі мясцовых улад, былыя вучні, сябры, сваякі. У святочным канцэрце гучалі песні на словы паэта. Ад імя літаратараў Віцебшчыны калегу павіншаваў сакратар абласной пісьменніцкай арганізацыі Франц Сіўко. Землякі Аркадзя Нафрановіча з задавальненнем пазнаёміліся з яго чарговай кніжкай "Мая Адысея", якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва". Гэта аўтабіяграфічны аповед пра пакуты ў фашысцкай няволі падчас Вялікай Айчыннай вайны.**

## "Белая амфара" — у сёмы раз

**У Віцебску прайшоў конкурс мадэльераў і дызайнераў "Белая амфара". У сёмы раз гэты прадстаўнічы форум моды набыў статус міжнароднага. Конкурс праходзіў у дзвюх намінацыях: прамысловае і непрамысловае мадэліраванне. Было прадстаўлена больш за 80 калекцый. Акрамя мастакоў канцэрна "Беллегпрам", 17 калекцый прадставілі прыватныя прадпрыемствы. Як адзначыў старшыня журы, вядучы мастак-мадэльер расійскага канцэрна "Панінтэр" У. Зубец, віцебскі конкурс — конкурс аўтарскай моды. А спецыяліст лабараторыі маскоўскага класіка моды Зайцава Л. Давыдава назвала віцебскі подыум інтэлектуальным.**

**Першае месца на "Белай амфары" прысуджана Алене Міт з "Мілавіцы", а Гран-пры аддадзены Вользе Самошчанцы і Таццяне Катэс з Беларускай акадэміі мастацтваў.**

## Праблемы мастацкай педагогікі

**Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. Машэрава правёў другую міжнародную навукова-практычную канферэнцыю "Свет мастацтва і дзеці: праблемы мастацкай педагогікі". Навукоўцы з Латвіі, Расіі, Украіны, Казахстана і Беларусі абмеркавалі сучасныя падыходы ў развіцці школьнай мастацкай адукацыі. У чарговы раз было адзначана, што менавіта выхаванне праз мастацтва робіць наш свет больш шчаслівым.**

**— Сучасная школа шукае новыя адукацыйныя тэхналогіі, — гаварыў дацэнт Віцебскага дзяржуніверсітэта Міхась Цыбульскі. — Наш універсітэт павінен ёй у гэтым дапамагчы...**

**Святлана ГУК**
**Віцебск**

# Арганізацыйна-творчая работа Саюза беларускіх пісьменнікаў

***Згодна з пастановай Рады СБП ад 16 лютага 2001 г. і камісіі па падрыхтоўцы XIII з'езда пісьменнікаў, кіраўніцтвам СП падрыхтаваная даведка "Аб арганізацыйна-творчай рабоце СБП за перыяд паміж XII і XIII з'ездамі 1998—2001 гг.", якую мы друкуем у сённяшнім нумары як дадатак да асноўнага даклада, які даручана падрыхтаваць і агучыць на з"ездзе в.а. старшыні СБП В.М.Іпатавай.***

***Паколькі ў "Літаратуры і мастацтве" змешчаны справаздачы абласных аддзяленняў і на з'ездзе выступяць некаторыя старшыні творчых секцый, справаздача падаецца ў скарочаным выглядзе.***

### РАБОТА РАДЫ СБП

Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў збіралася рэгулярна, згодна Статуту. На яе пасяджэннях разглядаліся творчыя і арганізацыйныя пытанні — справаздачы абласных аддзяленняў СБП, кіраўнікоў секцый, праца літаратурных аб'яднанняў пры раённых газетах і г.д. Таксама праводзіўся прыём у сябры СБП.

### МІЖНАРОДНЫЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ СУВЯЗІ
**(Красавік 1998 — травень 2001 гг.)**

Праблема міжнароднага супрацоўніцтва мае асаблівую актуальнасць для культуры і, у прыватнасці, літаратуры Беларусі. Пра неабходнасць такога супрацоўніцтва і паказу свету сведчыць, у прыватнасці, выказванне выкладчыка Дортмундскага універсітэта Д.Холтбруге — аўтара кнігі "Webrubland", якая выйшла ў Мюнхене ў 1996 г. Нямецкі даследчык робіць вывад аб тым, што Беларусь з'яўляецца адной з самых невядомых еўрапейскіх краін, якая і пасля падзей 1991 г. разглядаецца не як незалежная краіна, а як частка Расіі. Тым не менш абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, яе нацыянальна-культурнае і духоўнае адраджэнне далі свой плён. У свеце, у прыватнасці ў Еўропе, абазначылася і няўхільна пашыраецца цікавасць да беларускай літаратуры, яе нацыянальных асаблівасцей. Упершыню літаратура наша як частка ўсёй беларускай культуры выступае на міжнароднай арэне не як нейкі неад'емны элемент літаратуры савецкай (расійскай), а як літаратура самабытнага этнасу, што мае шматвяковую гісторыю. З другога боку — наша нацыянальнае адраджэнне выклікае імкненне бліжэй знаёміцца з культурнымі дасягненнямі народаў свету, больш цеснаўзаемадзейнічаць з імі ў сферы літаратуры і мастацтва.

У 1999 годзе дэлегацыя беларускіх пісьменнікаў у складзе Сяргея Законнікава, Уладзіміра Някляева, Алеся Разанава, Людмілы Рублеўскай, Галіны Булыкі, Васіля Быкава наведала Нямеччыну.

### ХРОНІКА ТВОРЧАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА: КАНТАКТЫ, ДЫЯЛОГІ, "КРУГЛЫЯ СТАЛЫ", ПЕРАКЛАДЫ, УГАНАРАВАННІ

На сваім першым у **1998 годзе** пасяджэнні секцыя мастацкага перакладу і ўзаемасувязей літаратур СБП аб'явіла конкурс на лепшы пераклад твораў Адама Міцкевіча да 200-годдзя паэта.

Красавік 1998 года. Святлана Алексіевіч запрашаецца на міжнародны кніжны кірмаш у Лейпцыгу. Тут яе дакументальная проза адзначаецца прэстыжнай прэміяй "Еўрапейскае ўзаемаразуменне". Прэмію ўручыў прэзідэнт ФРГ Р.Герцаг.

Тыднёвік "Літаратура і мастацтва" ў нумары за 15 мая змяшчае артыкул Івана Чароты "І слова, і праўда агульныя", прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Д.Максімавіч. Адначасова змяшчаюцца і яго новыя пераклады з паэзіі сербскага класіка.

Літаратурная сустрэча на Свіцязі. Прэзентацыя зборніка "Свіцязянскі вянок", які склалі творы Адама Міцкевіча на польскай, беларускай і рускай мовах, а таксама напісаныя па свіцязянскіх матывах вершы Андрэя Вазнясенскага — у арыгінале і ў перакладах на беларускую мову Рыгора Барадуліна.

Уладзімір Ліпскі стаў лаўрэатам прэміі імя Альберта Швейцара. Цырымонія ўручэння адбылася ў будынку Рады Еўропы ў прысутнасці яе кіраўнікоў. Атрымоўваў прэстыжную міжнародную прэмію наш пісьменнік з рук архібіскупа Страсбурга Шарля Амарэна Брандта. Такім чынам адпаведнае журы ацаніла дзейнасць У.Ліпскага на карысць беларускіх дзяцей, якія сталі ахвярамі Чарнобыля.

Пабачыў свет "Украінскі альманах", прысвечаны сустрэчы на памежжы берасцейскіх і валынскіх літаратараў.

Адбылася прэзентацыя новага, юбілейнага выдання паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Твор выдадзены на трох мовах — польскай, беларускай і рускай, з ілюстрацыямі В.Шаранговіча, пад рэдакцыяй літаратуразнаўцы Язэпа Янушкевіча.

Прайшла чарговая польска-беларуская пісьменніцкая сустрэча ў Гайнаўцы (Беласточчына, Польшча). Сваімі ўражаннямі падзялілася ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва" Галіна Каржанеўская . Яе нататка называецца "Там салаў'і пяюць па-беларуску").

Пад дэвізам "Суладдзе сэрцаў" адбылася міжнародная літаратурная вечарына ў 1-ай гімназіі г.Даўгаўпілса (Латвія). На ёй ішла размова аб новых перакладах паэзіі Янкі Купалы і аб выданні анталагічнага зборніка твораў латвійскіх беларусаў "Крывіцкія руны". Правялі вечарыну Станіслаў Валодзька і Сяргей Панізнік.

**Год 1999.** Знаходзячыся ў Мінску з мэтай удзелу ў "круглым стале" на тэму "Беларуска-расійскія дачыненні: праблемы і перспектывы", вядомы рускі літаратар і аналітык Юрый Сураўцаў даў інтэрв'ю газеце "Літаратура і мастацтва".- "Без нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі не будзе ні трываласці, ні развіцця творчага патэнцыялу любой дзяржавы, не будзе міжнароднага прызнання і павагі, а значыць, не будзе і эфектыўнай знешняй палітыкі,— сказаў Ю.Сураўцаў. -- Ну і, безумоўна, немагчымае стварэнне трывалай і сістэмнай беларуска-расійскай культурнай прасторы". Адказваючы на наступнае пытанне, Ю.Сураўцаў зазначыў яшчэ: "Усе расійскія колы, у тым ліку і афіцыйныя, апынуліся ўбаку ад праблемаў вашага нацыянальнага адраджэння, ад абароны гінучай мовы самага блізкага этнасу, якую, я перакананы, Расія павінна абараняць. Абараняць існуючую на гэтай мове этнакультуру, як адну з апошніх чыстых крыніц славянскай культуры". Інтэрв'ю пад загалоўкам "Улады павінны зразумець неабходнасць захавання і развіцця нацыянальнай культуры!" змешчана ў нумары тыднёвіка ад 12 сакавіка 1999 г.

Саюз беларускіх пісьменнікаў правёў семінар перакладчыкаў нашай літаратуры. На семінар былі запрошаны Стэфан Паптонеў, Румяна Яўцімава (Балгарыя), Пётр Кошаль (Расія) і інш.

Сустрэча з балгарскімі калегамі адбылася таксама ў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". У гутарцы, якую вёў галоўны рэдактар Алесь Пісьмянкоў, прынялі ўдзел Ніл Гілевіч і Анатоль Вярцінскі.

Госці з Варшавы, намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Творчасць" Зімовіт Фядэцкі і перакладчык з беларускай мовы Чэслаў Сенюх сустрэліся ў Саюзе пісьменнікаў з маладымі літаратарамі Ганнай Кісліцынай, Пятром Васючэнкам, Зміцерам Вішнёвым і Сержуком Мінскевічам. У сустрэчы браў удзел намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч.

У Доме літаратара адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы "Гётэ і беларуская літаратура", прымеркаванай да 250-годдзя з дня нараджэння нямецкага класіка.

Двухдзённы семінар "Культура памежжа" адбыўся ў Гродні. У дыскусіі, прысвечанай беларуска-польскім літаратурным стасункам прынялі ўдзел: з польскага боку — Эўгеніюш Кабатц, Чэслаў Сенюх, Рамуальд Карась, старшыня таварыства "Польшча — Беларусь" Баляслаў Хмяліньскі, Алесь Барскі, з беларускага — в.а.старшыні СБП Вольга Іпатава, намеснік старшыні Навум Гальпяровіч, Уладзімір Мархель, Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Пяткевіч, Алесь Чобат і Ігар Жук.

У свяце дружбы "Латвія — Беларусь", што праходзіла ў Віцебску, прынялі ўдзел Сяргей Панізнік, Франц Сіўко і іншыя. Свята было працягам папулярных у Латвіі райнісаўскіх Дзён паэзіі.

**Год 2000.** На адрас кіраўніцтва СБП прышоў ліст ад старшыні Саюза славацкіх пісьменнікаў Яна Тужынскага, дзе зазначалася: "Адным з прыярытэтаў Саюза славацкіх пісьменнікаў лічу будучае супрацоўніцтва з вашым пісьменніцкім саюзам. У бліжэйшы час з задавальненнем прапаную вам праект узаемадзеяння нашых творчых арганізацый".

У сустрэчы пісьменнікаў Беларусі, Расіі і Украіны, што адбылася ў Ялце і мела на мэце абмеркаванне пытанняў творчага ўзаемасупрацоўніцтва, прынялі ўдзел Уладзімір Глушакоў, Генадзь Пашкоў, Анатоль Зэкаў, Яўген Каршукоў, Алесь Пашкевіч і Уладзімір Саламаха.

Адбылося чарговае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемаадносін. Яно было прысвечана працы з маладымі перакладчыкамі і падрыхтоўцы да "Літаратурнага экспрэса Еўропа - 2000". Прайшоў таксама абмен думкамі адносна хрэстаматыі па замежнай літаратуры, падрыхтаванай Лявонам Баршчэўскім. У пасяджэнні прынялі ўдзел Іван Чарота, Уладзімір Казьбярук, Яўген Каршукоў, Сяргей Панізнік, Міхась Кенька і Уладзімір Папковіч.

Падчас візіту ў Маскву в.а.старшыні СБП Вольга Іпатава мела гутарку з кіраўніцтвам Міжнароднай суполкі творчых саюзаў. У вечарыне беларускай літаратуры, якая прайшла ў Цэнтральным доме літаратараў, прынялі ўдзел Вольга Іпатава, Валянціна Коўтун, Леў Караічаў, Іван Бурсаў.

З 2 чэрвеня па 17 ліпеня 2000 года адбылася адна з самых буйных грамадскіх і культурных падзей, прымеркаваных да сустрэчы новага тысячагоддзя ,— міжнародны праект "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000". У акцыі прынялі ўдзел больш за сто літаратараў з 43 краін Еўропы. Беларусь прадстаўлялі Вольга Іпатава, Леанід Дранько-Майсюк і Андрэй Федарэнка. 9-- 10 ліпеня ўдзельнікі "Літэкспрэса" знаходзіліся ў Мінску. Іх сустракалі беларускія пісьменнікі. Адбылося вялікае тэатралізаванае свята ў Вязынцы. Прайшлі літаратурныя дыспуты і семінары ў Доме літаратара, у Нацыянальнай бібліятэцы, у гасцёўні Галубка, у музеях Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. У рамках дыскусій і публічных чытанняў абмяркоўваліся праблемы агульнаеўрапейскай будучыні, моўнай і літаратурнай разнастайнасці Еўропы. Закраналася таксама праблема беларускай мовы. Вялікую падборку твораў удзельнікаў "Літэкспрэса Еўропа- 2000", у перакладзе на беларускую мову, надрукаваў часопіс "Полымя" пад загалоўкам "Сумоўе душ-- сумоўе галасоў".

18 --20 кастрычніка ў Мінску знаходзілася дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Масквы на чале з яго першым сакратаром, вядомай паэтэсай і перакладчыцай з беларускай мовы Рымай Казаковай. У складзе дэлегацыі былі Юрый Сураўцаў, Кірыл Кавальджы і інш. Падчас гутарак у СБП было абмеркавана шырокае кола пытанняў, звязаных з творчымі ўзаемаадносінамі як пісьменніцкіх арганізацый, так і асобных мастакоў слова, з узаемадзеяннем у новых умовах дзвюх братніх літаратур.

Літаратуразнаўца і перакладчык, старшыня секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей Іван Чарота прыняў удзел у традыцыйнай Міжнароднай сустрэчы пісьменнікаў, што адбылася ў Бялградзе. У рамках сустрэчы адбылася прэзентацыя "Анталогіі лірыкі ўсходніх славян", якую склалі вершы беларускіх, рускіх і ўкраінскіх паэтаў на мове арыгінала і ў перакладах на сербскую мову, выкананых І.Чаротам.

У снежні быў ажыццёўлены сумесна з Інстытутам імя Гётэ ў Мінску адметны праект — нямецка-беларускі паэтычны дыялог "Каардынаты сучаснасці". Дыялог суправаджаўся прэзентацыяй зборніка вершаў нямецкіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову Алеся Разанава пад назваю "Kurz Kurz Lanq"("Кропка кропка працяжнік"). Прымалі ўдзел нямецкія аўтары Элькэ Эрб і Норберт Гумэльт. Поспеху акцыі спрыяў той факт, што раней прайшлі ўжо вечары--дыялогі Ніны Мацяш і Э.Эрб, Алеся Разанава і Г.Феспера.

**Год 2001.** З 16 па 21 студзеня ў Маскве знаходзілася ў рамках Дзён культуры Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі дэлегацыя СБП на чале з в.а. старшыні Вольгай Іпатавай. У дэлегацыю ўваходзілі Раіса Баравікова, Таіса Бондар, Генрых Далідовіч, Аляксей Дудараў, Уладзімір Карызна, Генадзь Пашкоў і Эдуард Скобелеў. Яны мелі гутаркі ў расійскіх пісьменніцкіх саюзах рознай палітычнай арыентацыі, прынялі ўдзел у беларуска-расійскім "круглым стале".

7--8 лютага па запрашэнні Саюза пісьменнікаў Літвы ў Вільнюсе знаходзілася дэлегацыя ў складзе в.а. старшыні СБП Вольгі Іпатавай, Анатоля Вярцінскага, Сяргея Законнікава і Валянціны Коўтун. Абмяркоўваліся планы творчага супрацоўніцтва паміж пісьменнікамі-суседзямі. Найперш размова ішла пра мастацкія пераклады, пра ўзаемаабмен публікацыямі новых перакладаў на старонках літаратурнай перыёдыкі. З літоўскага боку ў гутарках прынялі ўдзел старшыня Саюза пісьменнікаў Літвы, літаратуразнаўца Валянцінас Свянціцскас, літаратуразнаўца, перакладчыца з беларускай Альма Лапінскене, народны паэт Літвы, перакладчык нашай паэзіі Альгімантас Балтакіс, рэдактары часопісаў Даніелюс Мушынскас і Эвалдас Матвекас, літаратары Рамунас Клімас, Міндаўгас Кветкаўскас, Іонас Ліняўскас, Яніна Руткоўскене і дырэктар міжнародных праграм, паэт Эўгеніюш Алішанка. У пісьменніцкім клубе адбыўся вялікі літаратурны вечар, на якім выступілі таксама пасол РБ у Літве У.Гаркун і саветнік Уладзімір Скараходаў.

# Арганізацыйна-творчая работа Саюза беларускіх пісьменнікаў

Вячаслаў Рагойша, Васіль Жуковіч, Браніслаў Спрынчан, Валерый Стралко прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях, прысвечаных 140-ай гадавіне з дня смерці Тараса Шаўчэнкі.

На пашыраным пасяджэнні секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей ішла размова пра сучасны стан беларуска-балгарскіх творчых стасункаў. Адбыўся абмен думкамі пра такія выданні, як "Анталогія беларускай паэзіі", што выдадзена летась у Сафіі выдавецтвам "Панарама", і зборнік перакладаў з беларускай паэзіі Найдзена Вылчава "Беларуската моя тетрадка"("Мой беларускі сшытак"), што пабачыў свет у выдавецтве Белліт-фонду. У абмеркаванні прынялі ўдзел Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Кастусь Цвірка, Яўген Каршукоў, Уладзімір Анісковіч, Уладзімір Сакалоўскі, Алесь Яскевіч, Васіль Жуковіч, Алесь Траяноўскі, балгарыстка Марына Абрагімовіч.

Балгарская газета "Български писател" ("Балгарскі пісьменнік") змясціла ў нумары за 28 сакавіка водгук на "Беларускі сшытак" Найдзена Вылчава. Характарызуючы перакладчыцкую дзейнасць Н.Вылчава, аўтар водгуку зазначае, што паэт больш як 40 гадоў працаваў над сваёй аўтарскай анталогіяй і пераклаў звыш 8000 вершаў беларускіх аўтараў — з XYI ст. да нашых дзён.

Аляксандрам Пухаевым падрыхтавана падборка перакладаў беларускіх аўтараў на асецінскую мову ў Паўночнай Асеціі ("Веснік", № 1).

У навукова-даследчыцкім аспекце можна гаварыць пра вырашэнне яе ў гісторыка-літаратурным плане і ў плане параўнаўчага аналізу. Маюцца на ўвазе найперш такія працы — манаграфіі, як "Беларуская літаратура: пaўднёваславянскі кантэкст" Галіны Тварановіч, "Абранне вечнасці" Алены Яскевіч, "Творчасць Янкі Купалы і традыцыі духоўнай рэгіянальнасці ў польскай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя" Галіны Тычкі, "Культурныя сувязі Беларусі з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы" Віктара Шадурскага. Сюды ж трэба аднесці шэраг публікацый, што з'явіліся на старонках літаратурнай перыёдыкі, у прыватнасці: "Улада песняспеву"(Дыялог Ганса Ауэрсвальда і Алега Лойкі пра асаблівасці перакладу паэзіі Ф.Шылера на беларускую мову), артыкулы "Чэшская літаратура: блізкая і далёкая" Ірыны Шаблоўскай, "Гётэ і беларуская літаратура", "Творчасць Янкі Купалы ў Нямеччыне" Уладзіміра Сакалоўскага і інш.

У Саюзе беларускіх пісьменнікаў за гэты час былі прынятыя дэлегацыі і сябры пісьменніцкіх саюзаў Расіі, Польшчы, Сербіі, Швецыі, Украіны, Балгарыі. У Нямеччыне па запрашэнні "Літаратурнага калёквіуму і пры дапамозе Інстытута Гётэ выступілі пісьменнікі У.Някляеў, Л.Рублеўская, Г.Булыка.

## БЕЛАРУСКІ МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ. ПЕРАКЛАДЗЕНА НА БЕЛАРУСКУЮ...

Становішча з беларускім мастацкім перакладам (у прыватнасці перакладам паэтычным) уяўляе сабой сёння супярэчлівы малюнак. Тут назіраюцца як адмоўныя, так і станоўчыя тэндэнцыі. Палітыка так званага двухмоўя, эканамічны крызіс негатыўна адбіліся на справе выдання перакладной літаратуры. Так, спыніўся, па сутнасці, выпуск мастацкіх перакладаў у галоўным (дзяржаўным) пісьменніцкім выдавецтве "Мастацкая літаратура", перастала існаваць серыя "Скарбы сусветнай літаратуры". З-за адсутнасці бюджэтных сродкаў разабраны апошнім часам набор шэрагу падрыхтаваных да друку перакладных кніг. Знік папулярны некалі альманах "Далягляды". З другога боку, з'явілася новыя магчымасці і ўмовы. Так, выдавецтва "Беларускі кнігазбор" распачавала і пачало паспяхова рэалізоўваць новую, трэцюю па ліку серыю "Замежная літаратура", якая мае на мэце знаёміць чытача з шэдэўрамі сусветнай літаратуры ў перакладах на беларускую мову непасрэдна з арыгінала. Апошняя ўмова забяспечваецца дзякуючы таму станоўчаму факту, што за перакладчыцкую справу ўзяўся новае пакаленне літаратараў з адпаведным веданнем замежных моў і належнай адукацыяй. (На гэты момант, дарэчы, звярнуў увагу Васіль Сёмуха падчас нядаўняй лімаўскай дыскусіі "За гарбатай", прысвечанай праблемам перакладу).

Шмат зрабіў для росту прэстыжу і павышэння культуры мастацкага перакладу часопіс "Крыніца", змясціўшы на сваіх старонках — у перакладзе на беларускую мову — шэраг твораў сусветнай класікі. Стала прысутнічае рубрыка "Пераклады" ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Нягледзячы на фінансавыя і арганізацыйныя цяжкасці, даволі паспяхова ажыццяўляе такі маштабны праект, як "Галасы свету", часопіс "Полымя". Ужо пабачылі свет і звярнулі на сябе ўвагу нумары, у якіх шырока прадстаўлены нямецкая, славацкая, балгарская, чэшская, украінская і сербалужыцкая літаратуры. На падыходзе "галасы" іншых літаратур. Як ужо згадвалася, "Полымя" на сённяшні дзень — адзіны ў Еўропе часопіс, які здолеў аператыўна падрыхтаваць і апублікаваць унікальную ў сваім родзе падборку перакладаў з творчасці пісьменнікаў свету — удзельнікаў праекта "Літаратурны экспрэс Еўропа-2000". А пераклад твораў пісьменнікаў-гасцей ажыццявілі на высокім духоўным уздыме Г.Скакун, Л.Дранько-Майсюк, В.Рагойша, М.Кенька, І.Чарота, Я.Каршукоў, В.Коўтун, Л.Баршчэўскі, А.Гуцаў, А.Дапкюнас, Ю.Барысевіч.

Гэта — добры знак. Паказальны і той факт, што нядаўна адзін са слынных нашых майстроў мастацкага перакладу Васіль Сёмуха быў удастоены высокай дзяржаўнай узнагароды — Крыжа кавалера Ордэна "За заслугі перад Федэратыўнай Рэспублікай Германія". Званнем лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі — узнагараваны за пераклад на родную мову "Боскай камедыі" Дантэ Уладзімір Скарынкін.

## НА ПРАЦЯГУ МІЖЗ'ЕЗДАЎСКІХ ГАДОЎ ДРУКАВАЛІСЯ Ў ЛІТАРАТУРНЫХ ВЫДАННЯХ ПЕРАКЛАДЫ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

**З балгарскай** — Н.Гілевіча, У.Анісковіча, В.Сахарчука, В.Куляшовай, В.Жуковіча, Р.Барадуліна, С.Законнікава, А.Вярцінскага, В.Зуёнка, М.Мятліцкага, А.Пісьмянкова, Л.Дранько-Майсюка, Ю.Свіркі, А.Канапелькі, Л.Платонавай, У.Скарынкіна;

**з рускай** — М.Лужаніна, С.Грахоўскага, В.Зуёнка, В.Жуковіча, В.Аколавай, Р.Баравіковай, Р.Барадуліна, Ю.Свіркі, У.Паўлава, М.Кенькі, І.Чароты;

**з польскай** — А.Лойкі, К.Цвіркі, У.Мархеля, Г.Тычкі, Р.Барадуліна, С.Мінскевіча, В.Жуковіча, М.Валошкі;

**з украінскай** — С.Законнікава, В.Рагойшы, Н.Мацяш, В.Жуковіча, Г.Бураўкіна, У.Скарынкіна, В.Коўтун, В.Зуёнка, А.Пісьмянкова, В.Шніпа, А.Клышкі, В.Рагаўцова, Н.Гальпяровіча, А.Бадака, Л.Рублеўскай, У.Паўлава, А.Федарэнкі, В.Стралко;

**з нямецкай** — В.Сёмухі, А.Разанава, Л.Баршчэўскага, У.Сакалоўскага, Г.Скакун, С.Законнікава, В.Іпатавай;

**з латышскай** — С.Панізніка, Р.Барадуліна, А.Гуцава;

**з літоўскай** — В.Коўтун, В.Іпатавай, С.Законнікава;

**са славацкай** — Я.Каршукова, В.Ляшук, М.Мятліцкага, В.Коўтун, А.Разанава, М.Кенькі;

**з французскай** — Н.Мацяш, Л.Баршчэўскага, А.Асташонка, Л.Казыры;

**з сербскай** — І.Чароты;

**са шведскай** — Л.Баршчэўскага;

**з кітайскай** — Г.Кашубы;

**з курдскай** — Р.Барадуліна.

## УРАЧЫСТЫЯ ВЕЧАРЫНЫ І ЮБІЛЕІ

Вечарыны, якія праводзіліся ў Доме літаратара, засведчылі, што беларускае слова паранейшаму прыцягвае і пісьменнікаў, і аматараў беларускага слова. Поўная, а часам і перапоўненая зала — пацвярджэнне гэтаму.

За гэты час былі падрыхтаваны і праведзены на агульнадзяржаўным узроўні 100-гадовыя юбілеі такіх пісьменнікаў, як М.Лынькоў і К.Чорны, 70-годдзе У.Караткевіча. Саюзам пісьменнікаў падрыхтаваны і вечарыны да 100-годдзя У.Дубоўкі, У.Жылкі. Зараз вядзецца падрыхтоўка да святкавання 150-годдзя Я.Лучыны.

За перыяд між з'ездамі былі адзначаны дні народзін нашых класікаў — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Аркадзя Куляшова, Міхася Лынькова, Анатоля Вялюгіна, а таксама слынных пісьменнікаў Аляксея Карпюка, Хаіма Мальцінскага, Рыгора Кобеца, Веніяміна Блажэннага і інш.

У гонар 200-х угодкаў з дня нараджэння Адама Міцкевіча адбылося вялікае свята на возеры Свіцязь. У сустрэчы прыняў удзел рускі паэт Андрэй Вазнясенскі. Свята сабрала многіх знакамітых майстроў паэтычнага слова. Адначасна быў праведзены рэспубліканскі конкурс. Саюз пісьменнікаў разам з газетай "Звязда" ў лістападзе 1998 г. арганізаваў на Піншчыне свята, прысвечанае 50-годдзю Яўгеніі Янішчыц, чым іменем былі названы дзіцячая бібліятэка і вуліца. У в.Велясніцы адчынены музей Я.Янішчыц. Вечарына яе памяці прайшла таксама ў Доме літаратара, праведзена вечарына памяці М.Лынькова ў Дзяржынску.

Каля сарака юбілейных вечарын адбылося за гэты перыяд, а менавіта — Івана Шамякіна, Максіма Лужаніна, Леаніда Дайнекі, Георгія Юрчанкі, Віктара Казько, Аляксея Дударава, Галіны Каржанеўскай, Міколы Вяршыніна і інш. Свае творчыя вечары на сцэне Дома літаратара правялі Рыгор Барадулін, Вера Страмкоўская.

У Доме літаратара адзначалі і 75-годдзе з дня нараджэння Васіля Быкава, а таксама адбылася вечарына, прысвечаная 45-годдзю лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколы Мятліцкага.

Некалькі вечарын правялі і пачаткоўцы — прэзентацыю часопіса "Nihil", прадстаўленне групоўкі "Соты", "Бум-бам-літа", а таксама маладых паэтаў-"традыцыяналістаў".

У 2001 годзе была наладжана вечарына, прысвечаная Міжнароднаму дню паэзіі, падведзены вынікі конкурсу сярод вучняў школ. Сямікласніца з Вілейкі Ірына Голубева стала яго пераможцай. Вынікам супрацоўніцтва творчых саюзаў: Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага саюза мастакоў, Саюза дызайнераў, Саюза тэатральных дзеячаў стала маладзёжная вечарына "Світальны подых" да дня святога Валянціна.

Двойчы за перыяд між з'ездамі праходзілі адноўленыя "Навагоднія ялінкі" для дзяцей пісьменнікаў. Былі і падарункі. Тут істотную дапамогу аказалі Беларускі дзіцячы фонд, Саюз беларускіх жанчын, рэлігійныя арганізацыі.

## УШАНАВАННЕ ПАМЯЦІ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

У перыяд паміж з'ездамі гісторыка-мемарыяльная камісія праводзіла планавую работу па ўшанаванні памяці беларускіх пісьменнікаў.

Так, напрыклад, яшчэ ў верасні 2000 года ў Навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны адбылося пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы юбілею Янкі Лучыны. На пасяджэнні было прынята рашэнне правесці святкаванне на агульнадзяржаўным узроўні, адзначыць мемарыяльнай дошкай дом, дзе жыў пісьменнік, правесці выставы, прысвечаныя Я.Лучыну, зрабіць вечарыны памяці ў школах і бібліятэках.

Кожны год ва ўрадавыя ўстановы, а таксама ў абласныя і раённыя выканкамы пасылаліся лісты з просьбамі — адзначыць юбілеі і дні нараджэння пісьменнікаў арганізаваць вечарын, выстаў, ушанаваць памяць нашых класікаў.

Кожнаму такому ўшанаванню папярэднічае вялікая арганізацыйная праца СБП.

Таксама вядзецца праца з бібліятэкамі і школамі горада Мінска. Напрыклад, 100-гадовыя юбілеі У.Дубоўкі, С.Баранавых і інш. праводзіліся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Шмат мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці беларускіх пісьменнікаў праводзілася ў бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў, дзе гучалі творы У.Жылкі, А.Моркаўкі, М.Сяднёва і іншых слынных творцаў. Паралельна з мерапрыемствамі па ўшанаванні памяці праходзілі і так званыя "ўрокі" — гэта новая форма папулярызацыі творчасці беларускіх літаратараў. На такія сустрэчы, звычайна прымеркаваныя да юбілею пісьменніка, прыходзяць вучні старэйшых класаў (ды і не толькі старэйшых, часам да нас прыходзяць і вучні пачатковых класаў на сустрэчы з дзіцячымі пісьменнікамі). У іх прымаюць удзел не толькі пісьменнікі, але і навукоўцы. Пасля такіх сустрэч вучні і настаўнікі з задавальненнем прыходзяць не толькі ў бібліятэку СБП, але і на іншыя нашы мерапрыемствы. Гэта садзейнічае таму, што наша моладзь бачыць на ўласныя вочы, што беларуская літаратура жывe не толькі ў падручніках. Былі праведзены "ўрокі" па творчасці Паўла Міська, Міколы Ермаловіча.

Супрацоўнічае камісія і з літаратурнымі музеямі. Так, 105-гадовы юбілей К.Крапівы праходзіў у Музеі гісторыі беларускай літаратуры і з дапамогай супрацоўнікаў музея.

Сіламі гісторыка-мемарыяльнай камісіі быў падрыхтаваны "мемарыяльны спіс". Гэта база дадзеных, у якую закладзены звесткі аб чатырохстах пяцідзесяці памерлых пісьменніках: дата нараджэння, дата смерці, звесткі аб тым, дзе пахаваны пісьменнік, звесткі пра яго родных (імёны і прозвішчы, адрасы, тэлефоны). Мэта гэтай працы — дапамагчы грамадскасці не толькі даведацца, дзе пахаваны пісьменнік, але і наведаць яго магілу. Часам жыхары якой-небудзь вёсачкі нават не ведаюць, што на іхніх вясковых могілках пахаваны слынны дзеяч беларускай культуры.

У перыяд паміж з'ездамі СБП былі адкрыты помнікі П.Панчанку (Маскоўскія могілкі, г.Мінск), А.Макаёнку (в.Жураўвічы Рагачоўскага р-н Гомельскай вобласці, бюст), І.Чыгрынаву (Маскоўскія могілкі, г.Мінск). Былі ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі М.Танку Ф.Багушэвічу ў Мінску, У.Караткевічу ў Оршы, Тадэвушу Даленгу-Мастовічу. Іменамі А.Адамовіча, М.Танка, Т.Кляшторнага былі названы вуліцы не толькі ў Мінску, але і на малой радзіме пісьменнікаў. Адкрыццё вышэйназваных памятных знакаў праходзіла ўрачыста, з удзелам грамадскасці. Праўда, некаторыя помнікі не ўсталяваны да гэтай пары, напрыклад, Б.Сачанку. Але справа пасля неаднаразовых зваротаў СБП усё ж такі зрушылася з месца. Таксама былі падрыхтаваны і адпраўлены лісты ў Мінскі гар- і аблвыканкам наконт ушанавання памяці М.Ермаловіча з прапановай прысвячаць месца для помніка, даць імя даследчыка адной з вуліц Мінска і ўсталяваць мемарыяльную дошку на доме ў Маладзечне, дзе жыў пісьменнік. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, праца па ўсталяванні памятных знакаў вядзецца, і не безвынікова.

За гэты час праводзіліся літаратурныя чытанні, прысвечаныя У.Караткевічу (Орша), Ф.Скарыну (Полацк), плануюцца літаратурныя чытанні, прысвечаныя Цётцы (Шчучын), Э.Ажэшцы (Гродна) і інш. Працягваецца традыцыя паэтычных святаў у Багдановічавай Ракуцёўшчыне, Купалавай Вязынцы, Коласавай Мікалаеўшчыне.

Штогод праходзілі сустрэчы пісьменнікаў з грамадскасцю ў дзень нараджэння і ў дзень смерці такіх пісьменнікаў, як М.Багдановіч, Я.Купала, У.Караткевіч. Ускладаліся кветкі ля помнікаў і на магілах, гучалі словы пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў, чыталі вершы творцаў.

Значная праца была праведзена па падрыхтоўцы кнігі аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў, рукапіс якой знаходзіцца зараз у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

## АБ ПРЫЁМНАЙ КАМІСІІ СБП

Наноў абраная рада СБП на адным са сваіх першых пасяджэнняў удзяліла адпаведную ўвагу ўдасканаленню работы прыёмнай камісіі. Так, было распрацавана і зацверджана новае Палажэнне, сфарміраваны новы склад прыёмнай камісіі. Гэтыя і іншыя захады былі скіраваны на павышэнне патрабавальнасці ў справе прыёму новых членаў у Саюз пісьменнікаў. Не заўсёды выхад у свет кніжкі прозы або паэзіі дае падставу аўтару стукацца ў дзверы прыёмнай камісіі — усё вырашае мастацкі ўзровень твораў, талент прэтэндэнта. Тым больш, што сёння, маючы грошы, выдаць кнігу проста. Аб прынцыповасці прыёмнай камісіі лепей за ўсё скажуць наступныя лічбы. Творчасць 111 прэтэндэнтаў на пісьменніцкі білет разгледзела яна за справаздачны перыяд, а рэкамендавала — 44. Усе яны і сталі сябрамі саюза, годна папоўнілі шэрагі пісьменніцкай арганізацыі. Вось некаторыя імёны тых, хто быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў у апошні час і на каго мы ўскладаем вялікія надзеі: Ірына Дарафейчук, Валянціна Кадзетава, Таіса Супрановіч, Маргарыта Прохар, Наталля Капа, Таццяна Мушынская, Алена Яскевіч, Анатоль Майсеенка, Сяргей Сцяпан, Янка Лайкоў і іншыя.

Характэрна, што сярэдні ўзрост прынятых у саюз недзе ад 30 да 40 гадоў, калі ўжо можна гаварыць сур'ёзна і пра творчую сталасць.

Вялікая роля ў выхаванні маладой літаратурнай змены належыць нашым літаратурным выданням — часопісам, штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Але ў першую чаргу варта назваць часопіс "Маладосць" з яго серыйнай бібліятэкай, у якой мае шанс выдаца пачатковец. Прафесійна адрэдагаваныя і выдадзеныя кніжкі таленавітых маладых аўтараў даюць зялёнае святло для паступлення ў Саюз пісьменнікаў. Галоўны рэдактар часопіса Генрых Далідовіч з'яўляецца адначасова і старшынёй камісіі па рабоце з маладымі аўтарамі.

## РАБОТА З МАЛАДЫМІ ЛІТАРАТАРАМІ

Пачынаючы з 1999 года ў Саюзе пісьменнікаў пасля дзевяцігадовага перапынку была адноўлена традыцыя правядзення рэспубліканскіх семінараў маладых літаратараў. Так, у 1999, 2000, а таксама ў маі 2001 г. на некалькі дзён было сабрана больш за 140 маладых літаратараў. На жаль, сёлета семінар перанеслі ў сталічны Дом літаратара, бо ў семінары адмовіўся прымаць удзел Дзяржкамітэт па справах моладзі. Але тым не менш праца з маладымі па творчых секцыях адбылася. Пра яе вынікі можна меркаваць па розгаласе ў рэспубліканскім друку. Творы ўдзельнікаў апошніх семінараў былі змешчаны на старонках газет і часопісаў: "Знамя юности","Першацвет","Маладосць", "Полымя", "ЛіМ", "Переходный возраст", "Чырвоная змена" і іншых.

(Працяг на стар. 6—7)

Уладзімір **Глушакоў**
Генадзь **Пашкоў**
Васіль **Шырко**

**2000 год**
Уладзімір**Скарынкін**
Міхась**Кусянкоў**
Уладзімір**Ліпскі**

## ЛАЎРЭАТЫ ЛІТАРАТУРНЫХ ПРЭМІЙ СБП

**1998г.**

**У.Паўлаў** — літаратурная прэмія імя І.Мележа за аповесць "Пад сцхіленым дрэвам".

**А.Пісьмянкоў** — літаратурная прэмія СБП імя А.Куляшова за кнігу паэзіі "Вершы".

**А.Верабей** — літаратурная прэмія імя У.Калесніка за кнігу "Абуджаная памяць" Нарыс жыцця і творчасці У.Караткевіча.

**Ф.Гурыновіч** — літаратурная прэмія СБП імя Я.Маўра за кнігу вершаў "Птушыная азбука".

**1999г.**

**Л.Леванові** — літаратурная прэмія імя І.Мележа за раман "Ларыса альбо Прыгоды аўтамабіліста".

**М.Лужаніну** — літаратурная прэмія імя А.Куляшова за паэтычныя творы, апублікаваныя на старонках мастацкіх часопісаў і ў іншых перыядычных выданнях у 1998 г.

**С.Панізнік** — літаратурная прэмія імя У.Калесніка за зборнік гістарычнай літаратуры з серыі "Бацькаўшчына", прысвечаны Еўфрасінні Полацкай (ідэя стварэння серыі і яе падрыхтоўка).

**А.Дзеружынскі** — літаратурная прэмія Я.Маўра за зборнік "Вернасць".

**2000г.**

**А.Ветах** — літаратурная прэмія імя І.Мележа за кнігу прозы "Хроніка смутку".

**Ю.Голуб** — літаратурная прэмія імя А.Куляшова за паэтычныя творы апублікаваныя на старонках мастацкіх часопісаў.

**М.Тычына** — літаратурная прэмія імя У.Калесніка за кнігу "Аляксандр Пушкін і Якуб Колас" і артыкул "Цана прароцтваў".

**Н.Галіноўская** — літаратурная прэмія імя Я.Маўра за кнігу "Клубок і калабок".

## СТЫПЕНДЫІ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ

Саюз пісьменнікаў падрыхтаваў дакументы і прапаноўваў кандыдатуры пісьменнікаў для атрымання стыпендый Міністэрства культуры. У міжз'ездаўскі перыяд іх атрымалі:

**1998**
Жыбуль В.
Васючэнка П.
Тармола-Мірскі Р.
Гардзіцкі А.
Жуковіч В.
Пяхота А.
Аколава В.
Коўтун В.

**1999**
Мінскевіч С.
Скарынкін А.
Лукша В.
Капыловіч І.
Хатэнка А.
Зуёнак В.
Аўрамчык М.

**2000**
Чаропка В.
Гарачка В.
Баравік М.
Кірылаў Г.
Наўроцкі А.
Тулупава Н.
Купрэеў Н.
Пруднікаў П.

**2001**
Голуб Ю.
Фатнеў Ю.
Лук'янаў М.
Дамашэвіч У.
Паўлаў У.
Кустава В.
Дэбіш А.
Стома В.

## ТЭХНІЧНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ СБП

За перыяд між з'ездамі набытыя 3 камп'ютары, факс, ксеракс, што дазволіла стварыць базу дадзеных па працы гісторыка-мемарыяльнай і іншых камісій, а таксама аказаць дапамогу маладым літаратарам у наборы іхніх кніжак.

Падрыхтоўчыя курсы па камп'ютэрных сістэмах прайшлі 3 супрацоўнікі апарату СБП.

ВІНШУЕМ!

# "Гэты свет люблю дзівосны..."

## ПАЎЛУ САКОВІЧУ — 60

**Орша — горад з багатымі гістарычнымі і культурнымі традыцыямі — радзіма Паўла Паўлавіча. Нарадзіўся П. Саковіч 24 мая 1941 года ў сям'і чыгуначніка. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў на заводзе "Легмаш". Вабіла юнака нацыянальная даўніна, хацеў паболей даведацца і аб тым, што на працягу стагоддзяў адбывалася ў іншых краінах, таму і паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Атрымаўшы дыплом аб вышэйшай адукацыі, вярнуўся ў родны горад. А паколькі сам пачаў пісаць, стаў працаваць у рэдакцыі газеты "Ленінскі прызыў". Пасля была служба ў арміі, праца ў рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", у гаркаме і абкаме Кампартыі Беларусі, Міністэрстве культуры БССР, Белсаўпрофе. Апошнія пяць гадоў П. Саковіч працуе ў рэдакцыі часопіса "Полымя". З гумарыстычна-сатырычнымі творамі, у тым ліку з пародыямі, эпіграмамі рэгулярна выступае ў перыядычным друку, з'яўляецца аўтарам многіх калектыўных зборнікаў. Не чужая Паўлу Паўлавічу і дзіцячая літаратура. А наколькі ўмела трымае ён пяро ў руках, чытачы маглі ўпэўніцца і па яго кнігах прозы ("За матчыным часам"), сатыры і гумару ("Калючы серпанцін", "Як я жонцы спадабаўся"), "Эпіграмы як рэкламы", "дарослай" і дзіцячай паэзіі ("Мілавіца" і "Гром на калясніцы").**

**З юбілеем, шаноўны Павел Паўлавіч! Яшчэ доўгіх і доўгіх год жыцця Вам! надалей пацвярджайце сваімі творамі і кнігамі, якая жыццядайная на таленты аршанская зямля!**

Павел САКОВІЧ



### Травень

*Гэты час люблю дзівосны!*
*Салаўіны ранні золак.*
*Тчэ вясна на вечных кроснах*
*Дываны з чароўных зёлак.*

*Гнуць траву да долу росы,*
*Сонца сочыць краем вока,*
*Як вярба палошча косы*
*У рачулцы неглыбокай.*

*На гняздзе стаіць высока*
*Бусел-вартаўнік вясковы,*
*А пад ім плывуць аблокі*
*З белай квецені садовай.*

*Свой убор зляжалы сушыць*
*Маці свежым ранкам майскім.*
*Цвет вішнёвы зацярушыць*
*След яе у садзе райскім*

### Неба на крылах

*Я веру, што птушкі на крылах сваіх*
*Узносяць нябёсы штодня раніцою.*
*І ўніз беражліва, стаміўшыся, іх*
*Да нас апускаюць вячэрняй парою.*

### Матчына мова

*Гаворку вяду з беларусам "тыповым",*
*Ды чую ў адказ я не нашыя словы.*
*Нібыта не крэўныя мы, а чужыя.*
*Ці ведаем самі, хто ўсе мы такія?*
*Няшчасцяў замнога,*
*жывем беднавата,*
*Без матчынай мовы —*
*бацькоўская хата.*
*Ці вернецца памяць да ўсіх нас калісьці*
*На словы, што чулі ад маці з калыскі?*
*Каб мы гаварылі з усімі нароўні*
*На мове уласнай, спрадвеку шаноўнай.*
*Тады перастанем быць белай варонай*
*І свет больш не будзе*
*глядзець падазрона.*
*З народамі станем братацца нанова,*
*Бо ў іх, як і ў нас,*
*тая ж — матчына! — мова.*

### Пакаянне

*Даруйце ўсе, каму я мог,*
*Аднак нічым не дапамог.*
*Чужое гора абмінуў,*
*Слабым рукі не працягнуў...*

*Цяпер я чулы стаў і добры,*
*Бліжэй чужыя мне хваробы.*
*Слабых мой позірк не міне...*
*Ды сіл на ўсё ці хопіць мне?*

### Мае гімны

*Мой першы гімн — Жанчыне той,*
*Якая Свет мне падарыла.*
*І сонцу гімн асобны, свой,*
*І Воршы гімн — радзіме мілай.*
*Мне гімн каханню не забыць,*
*Шчымлівы гэткі і напеўны.*
*І гімн свабодзе загучыць:*
*Такі ствараецца, напэўна.*

*А Богу гімн — нібы вянец*
*Маёй удзячнасці без краю*
*Багаслаўві той гімн, Айцец,*
*Які душа сама спявае!*

### Зайздрасць... да зайздросніка

*Я ўсім кажу: мне зайздрасць*
*не знаёма.*
*Калі маню, Ўсявышні пракляне.*
*Я пазайздросціў бы*
*зайздросніку такому,*
*Які б хоць крышку пазайздросціў мне!*

●

*Мы з Джэкам, здаецца,*
*амаль аднагодкі:*
*Яму адзінаццаць,*
*а мне — шэсцьдзесят.*
*Чаму век сабачы да крыўды кароткі,*
*Дый мой, чалавечы,*
*даўжэй не нашмат?*

*Мы з сябрам адно неразрыўнае*
*штосьці:*
*У душ нашых, пэўна, адны карані.*
*Чаму ж у сабак мы больш*
*вучымся злосці,*
*А варта б вучыцца — найперш дабрыні.*

### На разломе

*Зямля дрыжыць, зямлі баліць.*
*Разлад нябачаны ў прыродзе,*
*Бо людзі ў ёй не ўмеюць жыць*
*Няўжо Зямля іх спапяліць,*
*Каб лепшых потым нарадзіць?*

*Ідзе разлом тысячагоддзяў...*

### Табе

*Таямнічыя зорачкі свецяць*
*З глыбіні васількоўых вачэй...*
*Знаю я: покуль*
*ёсць ты на свеце,*
*Крыж свой несці мне будзе лягчэй.*

*Калі ж свет у вачах пахіснецца,*
*Апраўданне расстанню знайду:*
*Шлях Туды небяспечны,*
*здаецца,*
*Лепш адзін я ў разведку пайду...*

### Перад іконай Маці Божай

*Як сустрэнуся позіркам з ёй,*
*Адчуваю свой лёс я сірочы,*
*Бо ніхто пасля маці маёй*
*Не глядзеў мне*
*з такой дабрынёй*
*І самотным прароцтвам у вочы.*



Фота В. МАЙСЮКА

## “Лістам дарога запала...”




“Дарогай паэзіі і праўды” — за гэтай назвай прадмовы народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі да кнігі выбранага Сяргея Законнікава “Лістам дарога запала...”, якая пабачыла свет у выдавецтве “Мастацкая літаратура”, тое найбольш важнае і істотнае, што і вызначае творчасць гэтага аднаго з самых цікавых сучасных беларускіх паэтаў. Чытач можа яшчэ раз перагарнуць старонкі папярэдніх кніг С. Законнікава, каб дзякуючы яго лепшым творам, лішні раз пераканацца, наколькі ярка і надзіва арыгінальна ён піша. Як пяро слухаецца майстра, а сам майстра здатны знайсці тое, адзіна неабходнае, слова, якое і дазваляе найлепш выказаць сваю думку, прымушае ўспрыняць напісанае, як сапраўднае хараство паэзіі. Дарэчы, як відаць з кнігі “Лістам дарога запала...”, С. Законнікаў з першых сваіх крокаў у літаратуры звярнуў на сябе ўвагу вершамі, у якіх здзіўляючая вобразная напоўненасць. Сведчанне таму і гэты безымянны верш:

*Сякуць жанчыны ў гародах капусту,*
*За імі паўзе непрыкметна вечар.*
*Ляцяць качаны ў барозны з хрустам,*
*Стаяць качарыжкі, нібы свечкі.*

Майстэрству паэта застаецца па-добраму пазайздросціць. А яно не абмяжоўваецца гэтым малюнкам. Напрыканцы прыхавана няменш уражлівае, сатканае з той жа назіральнасці і дару нязменна заставацца паэтам:

*Сняжынак соль*
*на зямлю, як на лусту,*
*Рукою шчодрай*
*сыпле мяцеліца.*
*Сякуць жанчыны ў гародах капусту,*
*Качаннем марозным рыпіць аселіца.*

Быццам убіраеш у сябе гэтае “с”, што нараджае ланцуг асацыяцый — сняжынак, соль, лусту, сыпле, сякуць, капусту, аселіцу... І толькі адно-адзінкавае “з” прабіваецца, але якім дысанансам яно гучыць! І сапраўды — як бы з марозу яно нарадзілася, зазімак з сабой нясе, золкасць паветра. І няважна, што ў творы ўсяго “качанне марознае”, але яно такое марознае, што ўся аселіца “рыпіць”. Упэўнена адчувае сябе С. Законнікаў і ў жанры паэмы. У шэрагу падобных твораў і “Чорная быль”. Па словах П. Панчанкі — гэта “адзін з першых у паэзіі паэтычных твораў і па часе напісання і па высокай мастацкай вартасці”. Маецца на ўвазе твор чарнобыльскай тэматыкі. “Чорная быль” — праўда Чарнобыля і праўда паслячарнобыльскай Беларусі. А калі глядзець шырэй, дык і ўсяго чалавецтва. С. Законнікаў не проста піша. Ён — такое адчуванне — зазірае ў самую душу людзей-пакутнікаў. У цэнтры яго ўвагі сам народ, які апынуўся на свайго родзе галгофе XX стагоддзя. Сам пульс часу страшнага беззаконня паэт вельмі ўражліва і праўдзіва перадае ў паэме “Цівалі”. У аснову твора пакладзены факт, які меў месца ў сапраўднасці. Бальшавіцкія нелюдзі, знішчыўшы перад вайной па загадзе наркама Л. Кагановіча вялікую групу беларускіх чыгуначнікаў, каб схаваць сляды злачынства, пахавалі расстраляных каля вёскі Цівалі пад Мінскам, у могільніку, у якім знаходзілася жывёла, памерлая ад эпідэміі. С. Законнікаў, як і ў паэме “Чорная быль”, паказаў усю трагедыю беларускага народа:

*На Беларусі — мор.*
*Мор — у кожную хату і двор.*
*На жывёлу — эпідэмія:*
*Сібірская язва,*
*Яшчур,*
*Сап*
*Ды пошасць, якой не чулі.*
*На людзей —*
*Нянавісці класавай інфекцыя:*
*У Сібір,*
*На Поўнач — этап*
*Або ў патыліцу — куля*
*На Беларусі мор.*

“Дарогай паэзіі і праўды” працягвае крочыць С. Законнікаў. А таму і знаходзіць напісанае ім належны водгук у чытацкіх сэрцах.

Міхась ГЕНЬКА

ПАЭЗІЯ

Максім ЛУЖАНІН



# З новага сшытка

## З кнігі быцця

*Адгарнуўшы першую старонку,*
*Бачу я*
*Белым-белую чаромху*
*Каля ручая.*

*Там, зазваўшы ліст і цвет на дрэвы,*
*У маі,*
*Днём і ноччу сыплюць срэбра спеваў*
*Салаўі.*

*Перагорнецца яшчэ старонка,*
*На другой*
*У малым свіронку ўе пастронкі*
*Бацька мой.*

*Ён сабе пакурвае ў рудую*
*Бараду.*
*Звіў пастронкі:*
*Маеш! — прапануе, —*
*Барануй.*

*Будзеш — сейбіт, не імкніся*
*Ў салаўі.*
*Хай спявае пробашч лысы,*
*Ліха з ім!*

*Што на свеце лепей, чым пакінуць*
*Баразну?*
*Так, як і наказваў бацька сыну,*
*Барану*
*Цягну.*
*2000*

## Цесляры

*Зазеляне́ўся лес стары,*
*Ідуць туды старыя людзі —*
*У засмучэнні цесляры,*
*Што ў іх вясны ўжо больш не будзе.*

*Ды любы ім вясновы чад,*
*Хоць для жыцця другая мера.*
*Спрабуй злічы —*
*не злічыш хат,*
*Куды яны прасеклі дзверы.*
*2001*

## Гарманіст

*Ён ішоў па гасцінцы услед за вятрамі*
*І падслухваў гамонку вясновых прысад,*
*Ён ішоў праз жыццё і жыццём быў абраны.*
*Каб музычнай рукою прайсці па басах.*

*І здавалася: ўсё навакол падпявала —*
*Гай бярозавы, вёска з ружовым галлём,*
*І ўсміхалася тая, што ноч прачакала,*
*Не гасіўшы агню за дзявочым вакном.*
*2000*

•

*Выбухаюць нервы не з дакукі —*
*Над зямлёю поблізу чуваць*
*Згукі вельмі горкае навукі —*
*Разбураць, паліць і забіваць.*
*2001*

## Канец веры

*Вам здаралася стрэць*
*Невідушчае вока,*
*Што нахабна сябе*
*Раздзімае ў прарока?*

*Ёсць яны,*
*Абяцаюць лісліўным манерам:*
*“Кінь сваю,*
*Мая — лепшая вера!*
*Без хады, без журбы,*
*Без праседжвання лаў*
*Ты пабачыш, кім быў,*
*Ты адчуеш, кім стаў,*
*І паверыш у тога,*
*Хто павінен быць богам”.*

*Я паверыў, і слепа —*
*Да магільнага склепа.*

*Дзякуй богу, гісторыя*
*Руль закранула.*

*...Адвярнула...*
*2001*

## Сэрца

*Што! Наша сэрца крывавы камяк,*
*Сплецівa цягліц, сасудзін і нерваў?*
*Я б устрымаўся выказвацца так.*
*Гэта ж выток чалавечкае веры.*

*Сэрца не можа — і сорам, і грэх! —*
*Слацца, як ліст, пад нагамі чужымі.*
*Сэрца заклікана думку сагрэць,*
*Думка штандары і песні падыме.*

*Рвецца яно, калі нельга трываць —*
*Ветру бракуе ад порта да порта,*
*Рвецца яно, не сказаўшы “бывай”...*
*...Колас памёр ад разрыву аорты.*
*2001*

## Плач па чалавецтву

*Вякі суровыя, сівыя,*
*З кельнямі і сякерамі,*
*З вапнаю і цэме́нтам*
*Горад людзям стаўлялі.*

*Гады*
*Яго разбудоўвалі,*
*Шырылі,*
*Падхарошвалі,*
*Каб цешыў вока суседзям,*
*У госці здалёку клікаў.*

*А землятрус падкраўся*
*І меней чым за хвіліну*
*Здзьмухнуў з аблічча зямнога*
*Працу вякоў без следу.*

*...Пла́чу па Сальвадору,*
*Пла́чу па чалавецтву...*
*2001*

## Соль

*Мецъ багацце не ўсім дазволена,*
*Там-сям золата льецца ліўнем,*
*А нам трапіла торба з солямі*
*Спажывецкаю і калійнай.*

*Размінаючыся з няўдачамі,*
*Папытаем у ветру ў полі:*
*Ці не тымі аднымі смачкамі*
*Перасыпана наша доля?*

*І салёныя скрозь на Случчыне*
*Бэры свойскія, качкі дзікія*
*...Хто да солі здаўна прывучаны,*
*І да горкага хутка звыкне.*
*2001*

## Сон

*Са мною вёў размовы колас*
*Даспелы, цяжкі, залаты,*
*Тады на поле ў дзесяць столак*
*Наслала лета пекнаты.*

*І зноў, як толькі блісне золак,*
*Здалёку загудуць драты:*
*“Спяшай, цябе чакае колас*
*Даспелы, важкі, залаты”...*

*Іду я, дзёрзкі і вясёлы:*
*Насустрач выбягаеш ты.*
*2000*

## Водаправодчык

*Трэба ж усім вады*
*Даць,*
*Колькі хто хоча,*
*А ён такі малады —*
*Майстар-водаправодчык.*

*Ён — жыхарам радак,*
*Круціць, мяняе краны,*
*А тут — не яго бяда —*
*Дзед не вылезе з ванны.*

*Сяк-так дастаў.*
*Абцёр.*
*Падапрануў старога.*
*Але ж і той вясцёр:*
*— Выпі са мной, нябога, —*

*А то глыну вады, —*
*Святлеюць старыя вочы, —*
*Колькі ў цябе хады,*
*Еш, не стыдайся, хлопча!*
*2001*

•

Унучцы Т. Кляшторнага Тамары

*Мы з табою*
*кветкі даглядалі,*
*Кветкі ў нас адменныя жылі*
*І калі вясною расцвіталі,*
*На цябе падобныя былі.*

*Ты ў руках трымала гаспадарку*
*І была такі*
*дастойны спец:*
*Падпякала дранікі на скварках,*
*Астуджала слаўны халадзец.*

*Калі хто дазволіць жарт калючы,*
*Проста ў вочы абвяшчай брыдзе:*
*Ты мне засталася толькі ўнучкай,*
*Я табе застаўся толькі дзед.*
*2000*

## Просьба

*Сарваўшыся з земнай вобраці*
*На пошук зорных прыгод,*
*На белых палойках воблакаў*
*Гайдаецца самалёт.*

*А поблізу, з крайняй хаты,*
*Будучы авіятар —*
*Хлапчук —*
*Бяжыць па гразі:*
*— Дзядзечка, падвязі!*
*2000*

## Запытайка

*Мой знаёмы хлопчык, Запытайка,*
*Што не папытае — адкажы,*
*Хто цяжэй вагою: слон ці лайка?*
*Дзе глыбей: у Нёмне ці ў Сажы?*

*Як завецца мудрасці багіня,*
*І адкуль маральны заняпад:*
*Страусы выводзяць птушанят,*
*Страусіхі швэндаюць з другімі?*

*Ад пытанняў сэрца загарчыла,*
*У каго б самому запытаць,*
*Ці не брыдка лаяцца жанчынам*
*Словамі, што пішуць на платах?*
*2001*

## Усмешка

*Папу стрэў: слабы, вядуць пахолкі,*
*Я напэўна, болей пахадзіў,*
*Можа, ён распусні́чаў не столькі*
*Ў сэнсе — самагону меней піў.*

*Смех манашак чуць не пападала,*
*Я любіў — дзявочы, малады,*
*Ды, шкада, зімовая навала*
*Пабяліла і дала пад дых.*

*Мусіць, ён калісьці быў няўрымсны,*
*А цяпер, хай думае канклаў,*
*Я б, па ўзросце, мог быць папам рымскім,*
*Каб таго хоць трошкі пажадаў.*
*2000*

## На выхадзе з бальніцы

*Мне ноччу сніўся выжал,*
*Майго маленства пёс,*
*Ён бег і гаўкаў:*
*— Выжыў!*
*А я вясны прынёс.*

*Пад'ём.*
*Прыйшла сястрыца*
*І проста да мяне:*
*— Вам час бы пагаліцца,*
*І, проша, ў кабінет.*

*Іду.*
*Што доктар скажа?*
*— Як, доктар, я здароў?*
*— Я вас хачу паважыць.*
*Пара, пара дамоў!*

*Бягу збіраць манаткі,*
*Іх балазе няшмат,*
*І мой сусед палатны*
*Такой нагодзе рад:*

*— Ну й выдужаў, ну й выжыў...*
*— Я ашукаў свой лёс,*
*Мне пасміхнуўся рыжы*
*Майго маленства пёс.*

*— Сабакі ж не смяюцца...*
*— Мой — ледзь не гаварыў:*
*Мы спалі з ім у будцы,*
*Ва ўсім былі сябры.*

*Гатоў я, хоць у цэркву...*
*— Сястрычка, на — халат,*
*Ды вось яшчэ цукеркі,*
*Вам з Настай напалам.*

*— Бывай, аднапалатнік!*
*— Бывай, браток, бывай.*
*Мне будзе сумнавата,*
*Дый я праз тыдні два*

*У вочы б'е праменне,*
*Нібы вясны прынёс.*
*І зараз мяне стрэне*
*Маленства рыжы пёс.*
*2000*

ПРОЗА

Алесь РЫБАК

# КРАМОЛЬНЫ ВЕРШНІК



***Раман, які карціць хутчэй скончыць , — працяг папярэдняга рамана “Трэба было жыць”. Галоўны герой твора — усё той жа падлетак Вадзім Гурко. Па волі лёсу неўзабаве пасля вайны ён змушаны быў перасяліцца ў адзін з заходніх раёнаў Беларусі і становіцца сведкам лёсавызначальных, часам вельмі трагічных падзей у жыцці сялян. Там яшчэ толькі пачыналі арганізоўвацца калгасы, нярэдка уначы грымелі стрэлы, органы бяспекі праводзілі арышты. У новай школе, дзе вучыўся Гурко, таксама было неспакойна...***

***Старонкі з новага рамана, які я назваў “Галаброды”, прапаную ўвазе чытачоў штотыднёвіка.***

**АЎТАР**

У ШКОЛЕ толькі і шэпту было, што пра гэты незвычайны малюнак. Праўда, шапталіся найперш тыя, хто што-кольвечы кумекаў, а хто не ведаў, таму па завуголлі тлумачылі сэнс намаляванага. Малеча з першага паверха зусім была не ў курсе разгубленасці і страху настаўнікаў, сцішанасці і замкнёнасці старэйшых школьнікаў. Ды ёй ніхто і не спрабаваў увесці ў вушы, што на самай справе адбылося. Аднак і самыя ўжо абыякавыя і лянівыя карапузы, была ім у гэтым пільная патрэба ці не была, бегалі разам з дарослымі да прыбіральні, каб яшчэ і яшчэ раз глянуць на таго каня, намаляванага чырвонай фарбай паўз усю надворную сцяну гэтай прыземістай, халоднай і няўтульнай, але такой патрэбнай для ўсіх цаглянай будыніны.

Малеча дзівілася: конь, здаецца, як конь, мо як і ў многіх з іхняга мястэчка, а вось уся яго пастава, збруя на ім зусім не тутэйшая, нейкая надта ж гожая. Уздыбленыя пярэднія ногі, распушчаная грыва, магутны торс сведчылі, што на такім кані хіба толькі ляцець у бойку з незлічоным варожым войскам, секчы галовы і перамагаць. Гэтую здагадку пацвярджаў і чалавек-ваяр у сядле, у жалезным шлеме, са шчытом, з высока ўзнятай правай рукой, у якой, здаецца, аж паблісквае востры, як брытва, сталёвы меч. Гэты меч у дзятвы выклікаў асаблівае захапленне: вось бы такі мець, як бы добра было з ім гуляць у “вайну” з хлапчукамі з суседняй вуліцы. З такім ужо дудкі, ніхто не пакрыўдзіў бы. Рукі занадта кароткія...

Аднаму дырэктару было ні да мітусні, ні да трывожных перамоў між сабою настаўнікаў. Яму, калі сказалі раніцай, толькі пачаліся заняткі, пра малюнак, і калі схадзіў да прыбіральні і глянуў сам, стала зусім дрэнна. Замкнуўся быў у сябе ў кабінеце — добра, што ўрокі па гісторыі ў яго былі пазней, — выняў са сподняй кішэнькі пінжака таблеткі ад сэрца, узяў у рот ажно дзве, запіў з графіна вадой. Пасядзеў на кушэтцы хвілінаў пяць, але, не адчуўшы палёгкі ў грудзях, з цяжкасцю дайшоў да дзвярэй, адамкнуў іх. Падумалася: трэба вытрываць, не распускаць нервы. Няма безнадзейных сітуацый. Мо як абыдзецца. Хоць...

Было з ім ужо такое пяць гадоў таму. Вайна яшчэ паўсюль сеяла смерць, але ўжо бачыўся нейкі прасвет. Усё паказвала на тое, што немцы выдыхаюцца і хутка пакоцяцца назад.

Іх партызанская брыгада, хоць і выйшла з блакады з вялікімі стратамі, усё ж падлячыла раны, трохі акрыяла і зараз актывізоўвала свае дзеянні. У многія вёскі, атуленыя вялікімі лясамі і дзе не было чыгункі, гасцінцаў ці больш-менш значных дарог, немцы і не совалі носа. Гэта ўжо была іх, партызанская, зона, і жыццё тут ладзілася на даваенны манер.

Тады, увосень сорак трэцяга, і вырашыўся ягоны далейшы лёс. Частка іхніх партызан атабарылася ў вялікай, двароў мо на чатырыста, вёсцы Панізоўе.

Аляксей і яшчэ двое з ім, Коля Панцюхін і Дзіма Марачкін, моцна спалі пасля двухдзённай адлучкі — хадзілі ў тыл на рызыкоўнае заданне, як у хату, нарабіўшы стукату-грукату, заявіўся пасыльны ад начальніка штаба.

—Хто тут Мятліцкі Аляксей? — пасыльны паўглядаўся на саламяны, на падлозе, шырозны матрац, на якім, акрытыя адной даматканай посцілкай, нацягнутай паверх галоў, спалі трое.

Ніхто з іх ні на голас, ні на стукат-грукат не зварухнуўся і не адклікнуўся. З-за коміна, праўда, высунула галаву хваравітая на выгляд, з сівымі нячэсаныміваласамі старая, прашмякала бяскроўнымі губамі:

—Яны ж, галубе, толечкі пад раніцу ляглі. Дацягнуліся да парога ўжо як мёртвыя І нічога нат у рот не ўзялі, адно вару з зёлкамі папілі. А што нада? Я апасля скажу. Хай жа паспяць. А Ляксей той крайні, ля стала што.

Яго ўсё ж ускатурхалі, і праз хвілін колькі Аляксей быў перад кабінетам Ракутнага, які са сваім штабам, гэтак жа, як і камандзір брыгады, размясціўся ў былой школе, драўлянай, досыць прасторнай, але ўжо вельмі запушчанай будыніне пасярод вёскі.

У Ракутнага было некалькі чалавек, усе жанчыны, усе мясцовыя, панізоўскія. “Што ім трэба?” — убачыўшы праз шчыліну прыадчыненых дзвярэй у вялікім пакоі жаночы гурт, Аляксей адразу не зайшоў да начштаба, рашаў трохі перачакаць у калідоры, пакуль той вызваліцца.

Жанкі, аднак, нікуды не спяшаліся, і Аляксей заглянуў у пакой, павітаўся, папрасіў прабачэння за затрымку. Па тым, як прыняў яго начштаба, была прамільгнула думка, што мо Ракутны зараз развітаецца з жанкамі, а сам будзе падрабязна распытваць, як прайшла аперацыя, падзякуе за “языка” — важнага нямецкага афіцэра, якога яны ўсё ж упалявалі, які шмат ведаў і мог раскрыць многія сакрэты. Праўда, калі здавалі камандзіру атрада сваю “здабычу”, яны пра ўсё далажылі. Аднак жа, мусіць, мала гэтага...

Ракутны, між тым, і не думаў выпраджваць наведвальніц.

—Садзіся, — ён паказаў Мятліцкаму на ўслончык пры стале, які служыў замест крэсла. — Ты не здагадваешся, чаго цябе выклікалі, дзеля чаго прыйшлі гэтыя жанчыны?

—Не, — Аляксей недаўменна паціснуў плячыма.

Ракутны не стаў чакаць, агаломшыў нечаканай прапановай:

—Бярыся, Аляксей Мітрафанавіч, наладжваць у Панізоўі навучальны працэс. Мы ведаем, што ты настаўнік гісторыі, ведаем усю тваю біяграфію. Лепшай кандыдатуры на пасаду дырэктара школы не знайсці. Не за гарамі наша перамога, і трэба працягваць вучыць дзяцей. Во і маткі прыйшлі з такой просьбай. Малыя перарастаюць, зусім здзічэлі і адбіліся ад рук...

Чаго заўгодна чакаў Аляксей ад начштаба, але не гэткай неспадзеўкі. Як гром сярод яснага неба...

—А як жа — ён хацеў сказаць, што гэта, ва ўмовах вайны, амаль немагчымая справа, няма ні падручнікаў, ні мэблі, ды і іншыя ж настаўнікі патрэбны. А ў школе, да ўсяго, зімой і паліць трэба, і нечым жа хоць крыху пасабляць людзям, што рабіць возьмуцца.

Ракутны як быццам адгадаў яго думкі, яго заклапочанасць, перапыніў на паўслове:

—Ведаю, зараз будзеш даводзіць, што таго, гэтага няма, што не настаў яшчэ момант, трэба дабіць ворага і тады ўжо дбаць пра школу. Я напачатку таксама думаў, як і ты. Але кабеты, во, пераканалі. Спадзяюся, і цябе пераканаюць. Што да кадраў, то ўпэўнены, яшчэ некалькі настаўнікаў, а найперш настаўніц, знойдзецца сярод мясцовых. Для сямігодкі хопіць.

У пацвярджэнне гэтых слоў жанкі дружна загаманілі, пачалі называць прозвішчы, хто мае адпаведную адукацыю і яшчэ да вайны вучылі дзяцей, а цяпер толькі і чакаюць не дачакаюцца гэтага моманту.

Як і казаў начштаба, сярод названых былі адны жаночыя імёны, у тым ліку і Лініна. Пры ўпамінанні дзяўчыны ў Аляксея радасна засвяціліся вочы. Мільганула, што Ліна ж , пэўна, яшчэ й не ведае пра ягонае вяртанне, недзе мо таксама не спала ночы, хвалявалася за яго жыццё. Сёння, калі ўдасца сустрэцца, во сюрпрызаў ёй будзе!

Гэтую радасць, ззянне вачэй Мятліцкага начштаба вытлумачыў па-свойму:

—Па табе бачу, што згодны. Усе дэталі, як і з чаго пачынаць, мы яшчэ абмазгуем. Найперш вызвалім памяшканне, каб нікога ў школе, апроч дзяцей, не было. Па-другое, — і ў гэтым нам людзі памогуць — паклапоцімся хоць пра якія, на першым часе хай не парты, але сталы, лавы. Майстры ж у вёсцы, думаю, не звяліся.

—Хведар Мамонька гатовы зрабіць што хочаце. Бязногі, затое рукі залатыя, — падказала адна з жанчын, бойкая хударлявая маладзіца, якая надта ж гарэзліва зіркала на Аляксея, ён нават вымушаны быў адводзіць убок позірк.

З таго ўсё і пачалося. Ніколі не думаў Аляксей Мітрафанавіч, што дзеці, многія галодныя, кепска, у абы-што апранутыя, так ахвотна будуць наведваць заняткі, агрызкамі алоўкаў пісалі, рашалі задачы ў сшытках, зробленых са шпалераў, іншай якой паперы, абы чысты быў хоць адзін бок. Падручнікі ў таго-сяго таксама знайшліся: не ўсе паспелі парваць іх на курыва ці іншую патрэбу, многія знарок схавалі іх у такіх хованках, пра якія і самі былі забыліся. Цяпер бач як прыдаліся.

Ліна выкладала батаніку, гэта была яе прафесія, але адначасова згадзілася весці і ўрокі нямецкай мовы. У інстытуце, дзе яна вучылася перад самай вайной, была вельмі строгая, патрабавальная “немка”, і па гэтым прадмеце ў Ліны, як і па яе любімай батаніцы, значыліся адны пяцёркі.

Хапіла клопату з той нямецкай мовай. Ні дзеці, ні бацькі і слухаць спачатку не хацелі пра яе. “Нашто дзецям фашыстоўская гергетня? — падлавілі на вуліцы і ажно атакавалі Аляксея жанкі. — Мы ўжо наслухаліся, хапіла. Дык шчэ й дзецям у школе тлуміць мазгі?”

Аляксей Мітрафанавіч спачатку смяяўся, пасля як мог угаворваў, даказваў, але на другі ўрок па нямецкай мове так і не з’явілася ніводнага вучня. Давялося ўжо абаім, яму і Ліне, хадзіць па хатах, зноў тлумачыць, зноў угаворваць. Пациху ўсё ўладзілася, і Ліна больш не скардзілася, што нехта ігнаруе яе заняткі па нямецкай.

Што вельмі здзівіла і ўзрадавала Аляксея Мітрафанавіча, дык гэта нікім афіцыйна не абвешчаны, але неяк сам сабою ўсталяваны, быццам так заўсёды было і павінна быць, дух беларускасці ў школе. Ці мо таму, што настаўніцы былі мясцовыя, ці ўжо за вайну развучыліся па-іншаму, па-гарадскому думаць і гаварыць, але з радасцю, нібы нават з гонарам як на пераменках між сабою, так і на ўроках з дзецьмі размаўлялі і тлумачылі прадметы толькі па-беларуску. Нават Ірына Сцяпанаўна, якая паспяхова спраўлялася з рускай мовай і літаратурай, хваліла часта дзяцей за дбайнасць, у побыце, у дачыненнях з калежанкамі адразу забывалася, што яна “русічка”, пераходзіла на родную гаворку. Гэткае навучанне, гэткая школьная атмасфера, адчувалася па ўсім, былі вельмі па нутры і дзецям, і іхнім хатнім.

Аляксей Мітрафанавіч, які, абвыкшыся, з партызанамі гаварыў на трасянцы, зараз, у школе, на кожным кроку кантраляваў сябе, баяўся, каб незнарок не ляпнуць што з багатага партызанскага жаргону, не абняславіцца перад ці не залішне далікатнымі паненкамі-настаўніцамі. А найперш — перад Лінай. Ён таксама ўсе ўрокі вёў на роднай мове. Спачатку, праўда, не вельмі гладка ў яго атрымоўвалася, бо за два з гакам гады тое-сёе падзабылася, выпалі з памяці асобныя трапныя словы, выразы. Аднак галоўнае, сутнасць таго, што ён хацеў данесці дзецям па гісторыі, помніў назубок, і гэта дапамагло хутка асвойтацца, адчуць сябе як рыба ў вадзе. Больш таго, ведаючы, што ніхто не кантралюе, што няма і не прадбачыцца ніякіх правяральшчыкаў, мог дазволіць расказаць старэйшым дзецям, найперш — пяці-шасцікласнікам, папрасіўшы, праўда, каб гэта засталося ў іх толькі наўме, толькі як зарубка ў памяці, тое-сёе са слаўнага, незвычайнага мінулага сваёй Бацькаўшчыны, што хавалася за сямю замкамі, выкідвалася з усіх кніжак і падручнікаў, і адно дзякуючы яго настырнасці, жаданню дакапацца да самага кораня, а найперш такой-сякой уцалелай, але забароненай літаратуры, якую з вялікай асцярогай давалі яму пачытаць на ноч самыя блізкія сябры па інстытуце, ён гэта спазнаў, а спазнаўшы, нібы адкрыў для сябе новы сусвет.

Па тым, як, затаіўшы дыханне, школьнікі слухалі яго, Аляксей Мітрафанавіч зразумеў: недзе ў іхніх душах тоіцца, запраторанае на саменькае донца, перададзенае ім невядома якім чынам, мо па току крыві ад дзядоў і прадзедаў, адчуванне сваёй годнасці, сілы духу і велічы, і яно, гэтае падсвядомае адчуванне, калі-небудзь праклюнецца, абудзіўшыся, і дасць добрыя ўсходы.

Школа з цяжкасцю, але жыла, гула дзіцячымі галасамі, ішлі ўрокі, і многія ўжо нібы звыкліся, што так яно і павінна быць. Аднак пагроза і Панізоўю, і тамашнім жыхарам прыйшла нечакана. У адну з начэй партызанская брыгада ў спешцы знялася з асвоенага месца, падалася ў невядомым накірунку.

Раніцай панізоўцы толькі і гаварылі аб гэтай падзеі. Найбольш са страхам. Людзі са свайго жыццёвага вопыту ведалі, што пустата не можа надта доўжыцца, і рабілі выснову — калі адступілі адны, значыць, чакай неўзабаве іншых.

Над вёскай, усім наваколлем павісла злавесная цішыня. Той-сёй агітаваў уцякаць у лес і, пакуль не будзе якой пэўнасці, адседзецца там. Калі, крый Божа, заявяцца немцы — бяды не мінаваць. Не даруюць, што прывячалі партызан. Шчэ, чаго добрага, хаты папаляць, а то й людзей разам з імі. За вайну ж усяго наслухаліся...

Аляксей Мітрафанавіч таксама не ведаў, як быць і самому, і са школай. Было няўцям, як маглі ні начштаба, ні хто іншы не папярэдзіць, што пакідаюць вёску. Ён жа быў дома, у Ліны, маглі б пабудзіць. Хата іхняя хай і стаяла наводшыбе, але ж дабегчы ці падскочыць на кані — раз плюнуць. Чаму так спехам зняліся з месца? Што змусіла? Тэрміновы загад? Ці нечаканая пагроза? А мо асабліва важнае заданне, і не было ніводнай лішняй хвілінкі, каб да некага там бегаць, папярэджваць?

Як бы там ні было, а ўсё ж крыўда і недаўменне распіралі грудзі. А яшчэ гэтая няпэўнасць, паніка людзей...

Галава пухла ад думак. Спыніць вучобу, распусціць па хатах, быдта нічога і не было, дзяцей, іхніх настаўніц? Гэта лягчэй за ўсё. А ці не зразумеюць многія, што ён сам збаяўся, паддаўся панічы? Настаўніцы ж, во, усе як адна, і бальшыня з дзяцей з’явіліся на ўрокі, нягледзячы на розныя страхі. А ён жа дырэктар, на яго глядзяць, што скажа, як распарадзіцца. За ім апошняе слова.

Масла ў агонь падліла шчэ і Клара Васільеўна, Лініна маці:

—Мае ж вы дзеткі, баюся я за вас. І сны нядобрыя сняцца. Мо б вы таксама ў лес? Ты ж, Ляксейка, ведаеш усе сцежкі-дарожкі...

Ліна не вытрывала, сыкнула на матку:

—Хоць ты памаўчы ўжо, мама. І так моташна. Алёша сваю галаву на плячах мае. Хай рашае. Што да мяне, дык я цябе адну не кіну. Перад кім я правінілася, каб уцякаць? Думаю, што і ўсе ў школе, і дзеці, і настаўнікі, што адны вучацца, другія іх вучаць — таксама грэшнага нічога не зрабілі і не робяць. Ды, урэшце, хто сказаў, што немцы сюды сунуцца? Мала што плявузгаюць...

Саму вёску яны і праўда мінулі. Мо збаяліся якой засады? Аднак па загуменні, дзе была добра ўезджаная дарога, прайшлі, не замаруджваючы ходу, вялікай калонай. Аляксей Мітрафанавіч вёў якраз урок з пяцікласнікамі, як пачуў зводдаль гул матораў. Ён выйшаў на ганак школы, глянуў у бок загумення. Хоць было і няблізка, але адразу пазнаў, што гэта немцы: і па машынах, акрытых брызентам і, пэўна, біткам набітых салдатамі, і па тарахценні матацыклаў. У многіх машынах, згледзеў, ззаду былі прычэплены гарматы. “Божа, хоць бы пранесла, хоць бы не спыніліся, не заглянулі ні ў вёску, ні ў школу”, — як не маліўся ў думках ён.

Дзеці таксама не ўседзелі, прыліплі да вокнаў, і Аляксею Мітрафанавічу, колькі ні ўгаворваў, так і не ўдалося вярнуць іх на месца. Пачуўся рух у калідоры — відаць, і ў іншых класах стала не да заняткаў.

*(Працяг на стар. 15)*

## Школьная сцэна. Чаго чакаем?

У Беларускім акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа вось ужо пяты год запар праходзіў фестываль "Школьны тэатр". У гэтым годзе ён уключаны ў праграму Рэспубліканскага фестывалю "Мастацтва — дзецям". Прагляд школьных тэатральных калектываў пачынаецца па раёнах. Потым лепшыя запрашаюцца для ўдзелу ў гарадскім фестывалі. Прыемна адзначыць, што з кожным годам майстэрства старшакласнікаў, якія ўдзельнічаюць у гэтым фестывалі, расце. Журы ў складзе старшыні кандыдата мастацтвазнаўства Таццяны Катовіч, намесніка старшыні — галоўнага рэжысёра тэатра заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Віталя Баркоўскага, сталічных гасцей загадчыка аддзела тэатра часопіса "Мастацтва" Людмілы Грамыкі, журналіста Андрэя Ганчарова, акцёраў-коласаўцаў народнага артыста Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Тадэвуша Кокштыса, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, старшыні Віцебскай арганізацыі БСТД Баляслава Сяўко, актрысы, куратара завочнага акцёрскага курса Беларускай акадэміі мастацтваў Тамары Скварцовай, прадстаўнікоў гарадскога і раённых органаў адукацыі было прадстаўлена 12 тэатральных школьных калектываў г. Віцебска. Складана было вызначыць пераможцаў, бо шмат калектываў прэтэндавалі на галоўныя прызы фестывалю. Перавагу аддалі аўтарскаму праекту студэнта ВДУ Сяргея Кашпара "Мікіта", які ён ажыццявіў пры дапамозе школьнага тэатра 17-ай СШ (кіраўнік Т. Б. Аброзевіч). Балючы дыспут пра лёс сённяшніх старшакласнікаў нікога не пакінуў абыякавым. Магчыма, хлопчыкам і дзяўчынкам з 9 "Б" класа пакуль не хапае акцёрскага майстэрства, але ёсць галоўнае — шчырасць і непрыхаваны боль. Старшакласнікі 39-ай СШ паказалі спектакль "Легенды старажытных амфар" І. Аненскага. Іх падарожжа ў сярэднявечча таксама пазначана прыкметамі сучаснасці, бо хлопчыкі і дзяўчынкі самі рыхтавалі тэатральныя касцюмы, вядома ж, стылізаваныя, і па кніжках тых часоў рабілі дэкарацыі — старажытныя амфары. У 23-ай СШ нарадзіўся спектакль па аповесці К. Сергіенкі "Бывай, яр!". Вядомая гісторыя, але тут яна спраектавана на праблемы людзей, якія толькі збіраюцца сутыкнуцца з дарослым жыццём. Калектывы 39-ай і 23-яй школ атрымалі першае месца на школьным фестывалі. 3-яя і 42-ая сярэднія школы са спектаклямі "Юбілей" А. П. Чэхава і "Што нам жыццё? — Гульня!" падзялілі 2-ое месца, а 10-ая і 11-ая школы са спектаклямі "Трыбунал" А. Макаёнка і "Ведзьма" М. Кацюбінскага — 3-яе месца.

Былі прызы і за лепшы акцёрскі дуэт фестывалю (ім адзначаны калектыў ліцэя № 1), і за лепшую харэаграфію (42-ая і 39-ая СШ), і за поспех у гледача (21-ая СШ), і нават за глыбока прыхаваны гумар. Адзначаны і лепшыя акцёрскія работы.

Самае прыемнае, што гэты фестываль выклікае вялікую цікавасць у гледача, да яго нераўнадушныя кіраўнікі школ і органаў адукацыі Віцебска, а цяпер да ўсіх гэтых людзей далучылася Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, якое выдзеліла сродкі на прызы і кветкі.

Мяркую, што тэатру імя Якуба Коласа трэба працягваць гэту работу яшчэ і таму, што маладыя людзі з тэатральных гурткоў з цягам часу папоўняць трупу тэатра, а магчыма, стануць асновай для новага маладзёжнага тэатра, пра які марыць кіраўніцтва коласаўскага тэатра.

**С. ДАШКЕВІЧ,**
загадчык літаратурнай часткі тэатра імя Якуба Коласа

## Двайная перамога

Студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ўжо даўно набылі імідж актыўных удзельнікаў міжнародных конкурсаў у розных краінах свету. Грунтоўная падрыхтоўка з дапамогай выдатных спецыялістаў дае выхаванцам акадэміі магчымасць атрымоўваць найвышэйшыя ўзнагароды.

Чарговая перамога аказалася для Акадэміі музыкі не зусім звычайнай. І і ІІ прэміі ў дзвюх намінацыях "Музычнага конкурсу Францыі", які адбыўся ў Руане, заваявала студэнтка IV курса аддзялення фартэпіяна Лі Фан, чыя радзіма — Кітай. Яна займаецца ў класе дацэнта А. Хімчанкі, выхаванцы якой не раз выходзілі ў пераможцы. (Некалькі гадоў таму, напрыклад, трэцяе месца ў спаборніцтве ў французскім горадзе Брэсце атрымала яе вучаніца Сяо Мяо Янь).

У праграме маладой піяністкі — творы Баха, Бетховена, Шапэна, Равэля, Шастаковіча і іншых кампазітараў. Для Лі Фан конкурс стаўся своеасаблівай рэпетыцыяй — цяпер яна рыхтуецца да ўдзелу ў міжнародным спаборніцтве, што адбудзецца ў Італіі. Лаўрэаты не спыняюцца на дасягнутым, і гэта ўзнімае аўтарытэт Беларускай акадэміі музыкі за мяжой.

**Марына МРАЧКО,**
студэнтка І курса БАМ

ФЕСТЫВАЛІ

*Патрапіць на YI Рэспубліканскі фестываль "Музы Нясвіжа" мне, на вялікі жаль, не давялося: акалічнасці вымусілі застацца ў Мінску. Балазе, у традыцыйную майскую вандроўку выправілася вядомая даследчыца беларускай музычнай даўніны. Удзельніца распрацоўкі канцэпцыі кожнага нясвіжскага фестывалю, яна вядзе канцэрты, суправаджаючы іх папулярным асветніцкім каментарыем, выступае на пасяджэннях навукова-практычнай канферэнцыі, штогод рыхтуе разам з брыгадай Беларускага тэлебачання мастацка-пазнаваўчыя праграмы пра імпрэзы ў Нясвіжы. Гэта — кандыдат мастацтвазнаўства Вольга ДАДЗІЁМАВА, якая пагадзілася падзяліцца сваімі сёлетнімі фестывальнымі ўражаннямі.*

**— Пяць гадоў запар "ЛіМ" распавядаў пра музычныя імпрэзы ў Нясвіжы. Тыя расповеды жывіліся штораз непаўторнымі ўражаннямі, шчырай захопленасцю пачутым, адчутым, убачаным. Як было сёлета: ці не знізілася цікавасць да "Музаў Нясвіжа" ў асяроддзі меcцічаў, сярод саміх арганізатараў і ўдзельнікаў фестывалю?**

# З'ява элітная — і папулярная

— Цікавасць да "Музаў Нясвіжа" не толькі не страцілася, але нават узрасла! Мне давялося правесці ўжо шмат канцэртаў, але такой атмасферы, як на сёлетніх нясвіжскіх, здаецца, не было ніколі. Ніколі зала не слухала музыку і слова гэтак уважліва і спагадліва. Фестывальныя канцэрты зацягваліся да дзвюх з паловай гадзін, але людзі не спяшаліся сыходзіць дадому. Нават пасля цырымоніі закрыцця фэсту публіка заставалася на сваіх месцах, нібы чакала працягу праграмы. Мала таго: аўдыторыя ў Нясвіжы надзвычай цікаўная і дасведчаная. У антрактах ці пасля канцэртаў за кулісы ішлі людзі — ад падлеткаў-дзяўчат да пачцівага ўзросту дзядкоў, задавалі зусім не дылетанцкія пытанні: пра інтэрпрэтацыю аднаго і таго ж твора рознымі выканаўчымі калектывамі, пра дэталі інструментоўкі, пра даты заканчэння той або іншай аўтарскай рэдакцыі опуса... Няцяжка зрабіць выснову, што за пяць ,цяпер ужо шэсць, гадоў наведнікі фестывалю прайшлі своеасаблівы курс "народнай кансерваторыі", гэта выхаваныя, падрыхтаваныя слухачы, дасведчаныя ў беларускай музычнай спадчыне часам ці не горш за некаторых маіх студэнтаў. Адчуваючы сапраўдны плён сваёй працы, арганізатары і выканаўцы, натуральна, працуюць з яшчэ большай самаадданай і энтузіязмам.

**— Вольга, паводле сёлетняй канцэпцыі фестывалю, праграма складалася пераважна з музыкі дзвюх вялікіх эпох: класіцызму і рамантызму. Мы інфармавалі чытачоў пра гэта, а таксама пра склад удзельнікаў — як заўсёды, гэта былі камерныя калектывы, што працуюць у структуры Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга, іншыя мастацкія калектывы . Ці ўсё адбылося адпаведна абвешчанай праграме?**

— Так, выступалі Камерны аркестр, Ансамбль драўляных духавых інструментаў, "Сірынкс", "Інтрада"... Рэпертуар перагукаўся з тым, што гучаў на фестывалі "Заслаўе-2001". Але аркестр падрыхтаваў і прэм'еру: фрагмент з оперы Антонія Радзівіла "Фауст" — вакальны нумар у бліскучым, віртуозным інструментальным пералажэнні Андрэя Шпянёва.- Сёлета "Музы Нясвіжа" не адкрылі нейкіх новых "зорных" іменаў. Імёны кампазітараў былі ўжо добра вядомыя слухачам: Радзівіл, Агінскі, Абрамовіч, Ельскія; заходнееўрапейскія і рускія класікі... Але творы амаль не паўтараліся. Шарм быў і ў тым, што слухачы маглі параўноўваць розныя трактоўкі знаёмай музыкі . Да прыкладу, розныя інструментальныя версіі папулярнага "Паланеза" Агінскага. Наогул, "Музы Нясвіжа" спрыяюць глыбокаму ўсве-



*Іскрынкі свята.*


*Баль збірае гасцей...*


*Музыказнаўца Вольга Дадзіёмава і мастацкі кіраўнік фестывалю народны артыст Беларусі Міхал Фінберг.*


*Першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Уладзімір Дражын сярод гледачоў.*


*І ў сэрцах струны адгукнуцца!*


*Эпоха рамантызму?*

Георгій МАРЧУК

# ГОЛАС І СЛОВА

## З КНІГІ АФАРЫЗМАЎ

Калі мужчына губляе цікавасць у барацьбе за жанчыну, ён пачынае змагацца за месца ў гісторыі.

❑

Калі мы марым пра лепшае заўтра, лепшае сёння непрыкметна мінае.

❑

Прыкметы нашага часу: гэта калі камуністы не могуць, а капіталісты не хочуць.

❑

Усю сусветную гісторыю можна трактаваць і так: гэта пошукі раба розумам, грашыма, сілаю.

❑

Адвечныя праблемы жанчыны: у адносінах да большасці я апранута добра, у адносінах да меншасці — дрэнна.

❑

Адвечнае пытанне крытыка: сказаць праўду аўтару — пакрыўдзіць аўтара, сказаць няпраўду — пакрыўдзіць сябе.

❑

Да чалавека, які забівае ў палёце ластаўку, з асцярогаю падыходзяць і цар, і прасталюдзін.

❑

У старасці тры клопаты: паесці, паспаць і адпачыць пасля першых двух.

❑

Філасофія — гэта кровазварот думак чалавека.

❑

Жыццё ў старасці: учора розум быў — не было памяці, сёння памяць — няма розуму і так штодня.

❑

Спартовец праслаўляе сваю краіну на адзін год, пісьменнік — на сто.

❑

Часовыя рэформы, часовая канстытуцыя, часовыя грошы — часовая краіна.

❑

Красворд: знакаміты чэх XX стагоддзя. Пяць літар. Першая літара "Г". Заўсёды, пры любых умовах назаву Гашак, а не Гавал.

❑

Ідэальны чалавек той, які намагаецца палегчыць гора іншага, а не выкарыстоўвае гэта гора для павелічэння свайго шчасця.

❑

Не рынак небяспечны, а гандаль на ім.

❑

Выбары прыходзяць і сыходзяць, а есці хочацца ўвесь час.

❑

Гандаль — адзіны небяспечны вірус, якім чалавек заражаецца па ўласным жаданні.

❑

Чыноўнік, якога раптоўна адлучылі ад вельмі высокай пасады, падобны робіцца на свінню, якую забыліся зарэзаць.

❑

Калі маўчыш, гэта не заўсёды значыць, што думаеш.

❑

Ключы ад лета хаваюць птушкі, якія апошнімі ляцяць у вырай.

❑

Кепска, калі ў чалавека няма ініцыятывы, але яшчэ горш, калі яе замнога.

❑

Хто ўмее "делать" грошы, той іх "делает", хто не ўмее — той працуе.

❑

На першы веснавы лісток нават пыл з сорамам садзіцца.

❑

Стаў такім няшчасным, што проста не верылася, што ў яго некалі маглі быць дзеці.

❑

У часы сацыялізму сабаку казалі: "Дай лапу", у часы капіталізму сабака навучыўся казаць: "Дай у лапу".

❑

Людзі без праўды, як царква без званоў.

❑

Калі кампраміс робіцца штодзённым, ён грунтоўна перарастае ў канфармізм.

❑

Пасада пісьменніка не павінна вызначаць мастацкі ўзровень яго твораў.

❑

Крытыка — нахлебніца пры талентах.

❑

Цэны мяняюцца, але выдаткі заўсёды высокія.

❑

Начальнік выпіў і закусіў падначаленым. Астатнія змаўчалі, каб не патрапіць на дэсерт.

❑

Жанчына, на пакідай без дагляду дзіця, газавую пліту і мужа.

❑

Адзін раб, другі цар. Прыходзіць рэвалюцыя і мяняе іх месцамі.

❑

Чалавек у фанабэрыі хавае недахоп здольнасцяў.

❑

Толькі прыгажосць прыроды пастаянная. Нават сухое старое дрэва прываблівае да сябе.

❑

Птушка высокага палёту нізка кубло не ладзіць.

❑

Мужчына, не пакідай без дагляду кашалёк, пасаду і жонку.

❑

Няма такой улады, якая падабалася б бедным.

---

ПАЭЗІЯ

Вячаслаў РАГОЙША

## Палігон

*О Беларусь!*
*Каханка нябёс,*
*Загадка-мадонна!*
*За якія грахі*
*Асудзіў цябе Бог*
*На лёс*
*Выпрабавальнага палігона?*

*Ніводная з войнаў —*
*Айчынных, сусветных —*
*Не абышла цябе:*
*Пляжыла і мярэжыла.*
*Цела тваё*
*Цары,*
*Каралі,*
*Генсекі*
*Чацвяртавалі,*
*Палавінілі —*
*Верамі,*
*Мовамі,*
*Дзяржаўнымі межамі.*

*Дзівіцца свет:*
*Што табе памагае?*
*Пацеры ці замовы?*
*Што за краіна,*
*Што за такая?..*
*Зніклі*
*Дзяржавы,*
*Народы,*
*Мовы —*
*Яна не знікае!*

*О Беларусь!*
*Колькі вякоў*
*Палігоннасць трывае!*
*Лязгае кратамі,*
*Хітрасцю кратае...*

*Вось ізноў*
*На табе*
*Выпрабоўваюць трываласць:*
*Адны — дэмакраты,*
*Другія — нацы,*
*Чарнобыльскі чорт —*
*Чалавечай папуляцыі...*
1997—1.03.1998 г.

## Брахікалан чакання

*Мы*
*рабы*
*арбы.*
*Я,*
*што вол*
*рабы,*
*свой*
*ару*
*загон,*
*сею*
*жыта,*
*лён*
*ледзь*
*зіма*
*на згон.*
*Толькі ж*
*дзе мой*
*плён?*

*Мы*
*гарбы*
*гарбім.*
*Ты*
*станок*
*зрабіў,*
*я —*
*пракатны*
*стан*
*і —*
*героем*
*стаў.*
*Але*
*што*
*далей?*
*Зноў*
*адзін*
*ялей...*
*Мы*
*сяўцы*
*надзей,*
*новых*
*дум*
*і дзей:*
*вучым*
*мы*
*дзяцей,*
*лечым*
*мы*
*людзей.*
*Смех*
*і плач,*
*і віск...*
*Толькі ж*
*дзе наш*
*зыск?*

*Мы*
*рабы*
*арбы...*
*Мы*
*гарбы*
*гарбім...*
*Мы*
*сяўцы*
*надзей...*
*Толькі ж*
*дзе наш*
*плён?*
*Толькі ж*
*дзе наш*
*зыск?*
*Зноў*
*адзін*
*ялей...*

## На Святой Зямлі

*Ні бярозы, ні таполі,*
*ні сасонкі —*
*Толькі дзюны,*
*толькі скалы і дрыгва,*
*Ды быльнёг, чартапалох*
*калюча-гонкі,*
*Ды хамсіны-сухавеі,*
*трын-трава.*

*Ні сасонкі, ні бярозы, ні таполі —*
*Толькі мора, толькі спёка,*
*толькі плёс,*
*Ды каменнямі засеянае поле,*
*Ды сахарскі ядавіты жаўтапёс.*

*Ні таполі, ні сасонкі, ні бярозы —*
*Толькі слёзы,*
*толькі бедаў калаўрот,*
*Ды суседзяў нескančоныя пагрозы,*
*Ды адвечны недарэчны закалот.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Ні бярозы, ні таполі, ні сасонкі —*
*Толькі пот, што палівае*
*траў кілім,*
*Толькі праца ды майстэрства*
*подых тонкі:*
*Віфліем і Залаты Ерусалім.*

*Ні сасонкі, ні бярозы, ні таполі —*
*Толькі Госпадам*
*прадвызначаны лёс*
*Стаць калыскай чалавечай*
*долі-волі:*
*Іегова, Мухамед, Ісус Хрыстос.*

*Ні таполі, ні сасонкі, ні бярозы —*
*Толькі вера, толькі тора*
*з году ў год,*
*Ды адроджаны іўрыт, што выцер*
*слёзы,*
*Ды рэальнасці*
*жывой метамарфозы:*
*Не натоўп і не насельніцтва —*
*Народ!*

---

Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ

# Белая журба

## Дай мне, Божа, волю!

*Хто маўчыць — ні слова,*
*Хто крычыць так нема,*
*Хто нахмурыў бровы, —*
*На каго ён гнеўны?*

*Я маўчу — ні слова,*
*Я крычу, знямелы,*
*Я нахмурыў бровы,*
*На сябе я гнеўны.*

*Людзі ўсе, як людзі, —*
*Фін, француз, японец —*
*Вольны сцяг галубяць,*
*Дом свой шчасцем поўняць.*

*На сябе крыўдую,*
*На сваю нядолю,*
*У Хрыста прашу я:*
*— Дай мне, Божа, волю!*

*Дай мне, Божа, волю,*
*Дай навек, святую, —*
*Для шчаслівай долі*
*Дом свой адбудую!*

## Зямля мая

*Зямля мая, табой народжаны*
*З цяпла карэнняў векавечных,*
*Хоць невялічкі і няўходжаны,*
*Я твой, я твой жывы карэньчык.*

*Зачараваны і аблашчаны*
*Тваіх легендаў-казак словам,*
*Цябе я чую ў мове матчынай,*
*Як гул вякоў і шум дубровы.*

*Узгадаваны, неабдзелены*
*Тваёй трывогай і надзеяй,*
*Цябе не бачу я прыземленай,*
*З табой мы небам лятуценім.*

*О Беларусь, святлом ахрышчаны*
*Тваіх бяроз і зорнай высі,*
*Хай сто разоў я буду знішчаны,*
*Ніхто мяне не перахрысціць!*

## Белы снег

*На дарогу, дзе ўжо не сустрэцца*
*Мне ніколі-ніколі з табой,*
*Белы снег белым сумам кладзецца,*
*Расцілаецца белай журбой.*

*Белы снег, белы снег, заіскрыся,*
*Нагадай мне вясёлыя дні!*
*Гэй, юнацтва маё, адгукніся,*
*Шаргункамі здалёк празвіні!*

*Адасніўся мой сон васільковы,*
*Адыскрыўся ў каханых вачах,*
*Адзвінелі вясельныя бомы,*
*Снег расстання — як белы адчай.*

*Б'ецца птушкай самотнае сэрца:*
*Не сустрэцца мне болей з табой.*
*Белы снег белым сумам кладзецца,*
*Расцілаецца белай журбой...*

*Белы снег, белы снег, заіскрыся,*
*Нагадай мне вясёлыя дні!*
*Гэй, юнацтва маё, адгукніся,*
*Шаргункамі здалёк празвіні!*

## Цябе я вымаліў

*Цябе я вымаліў — і ты*
*Галубкай з Неба прыляцела*
*У дом халодны мой, пусты.*
*Цябе я вымаліў — і ты*
*Сагрэла мне душу і цела,*
*Як саграваe Дух Святы...*
*Цябе я вымаліў — і ты*
*Галубкай з Неба прыляцела.*

## Мара

*Там недзе ўзнёслы вольны дух*
*Штурмуе мора бурнае,*
*А я іду, іду, іду*
*Дарогай непрытульнаю.*

*За паваротам — параварот,*
*За марай — мара смелая:*
*Мяне ў бясстрашны свой палёт*
*Вазьміце, чайкі белыя!*

*Там недзе даль шуміць-звініць,*
*Кіпіць прыбоем, пеніцца,*
*Пад яркім водбліскам зарніц*
*Душа свабодай цешыцца.*

*Там недзе журыцца па мне*
*Мая князёўна мілая,*
*На зорным ветразі імкне*
*У сны мае няспынныя...*

*За паваротам — паварот,*
*За марай — мара смелая:*
*Мяне ў бясстрашны свой палёт*
*Вазьміце, чайкі белыя!*

## “Вечны спакой” у Нацыянальнай оперы

ДЗВЕ АФІШЫ З КАМЕНТАРЫЕМ

**Вы напэўна ведаеце, шаноўны чытач, чым адрозніваецца акадэмічны музычны тэатр ад філармоніі. Так, ён прызначаны для паказу опер і балетаў. А калі мае назву нацыянальнага, дык, верагодна, у першую чаргу (ці хаця б “у тым ліку”) — опер і балетаў нацыянальных. Гледзячы на зводныя афішы балетнай трупы (дарэчы, не апошняй у свеце), разумееш, што з гэтым усё добра (у рэпертуары — балеты В. Кузняцова, А. Мдзівані, А. Залётнева і інш.). Гледзячы на афішы оперныя, пачынаеш задумвацца, у якой краіне знаходзішся, бо тут галоўны аўтар... Джузэпе Вердзі. Кампазітар, безумоўна, геніяльны але...не адзіны ў свеце.**

**У сакавіку тэатр правёў “месячнік” Вердзі да чарговай “даты”, а ў красавіку-маі ў афішах зноў Вердзі, Вердзі... Сям-там Расіні, Моцарт, калі-нікалі Мусаргскі, Барадзін і толькі аднойчы за год — беларускі твор (“Дзікае паляванне караля Стаха” У. Солтана). Маўляў, няма грошай і магчымасцяў ставіць сваё.**

**“Рэквіем”, як вядома, — жанр не тэатральны. Гэта памінальная імша. І хаця менавіта вердзіеўскі твор у гэтым жанры часам выконваецца ў тэатрах таксама — як канцэртны, няблага было б кіраўніцтву Нацыянальнай оперы з гэтай нагоды цікавіцца рэпертуарнымі планамі ўласна канцэртных устаноў.**

**Убачыўшы на мінскіх вуліцах афішы “Рэквіема” ўсё таго ж Вердзі — выкананне ў адзін і той жа вечар у тэатры оперы і ў філармоніі — рады не дасі! Хіба ж толькі “Рэквіем” Вердзі існуе ў якасці сусветнага музычнага ўзору? І ці магчыма была б такая “накладка” ў іншай, нават самай развітай у эканамічным і культурным сэнсе, краіне — за дзяржаўныя грошы? Ці не змарнавала кіраўніцтва тэатра оперы тыя сродкі, якіх так не хапае на пастаноўкі беларускіх твораў? Пра што дбалі супрацоўнікі, адказныя за інфармацыю, якія маглі б глянуць у філарманічную афішу на перыяд “Мінскай вясны” (красавік) ці загадзя паведаміць у філармонію пра запланаваны тэатрам на 26 красавіка “Рэквіем”?**

**У дзень чарнобыльскай гадавіны гучанне рэквіемаў — натуральнае. Але чаму гэта павінен быць адзін і той жа твор Вердзі? Можа, ён заадно сімвалізуе і “чарнобыльскую катастрофу” галоўнага беларускага музычнага тэатра, да якой спакваля вядзе рэпертуарная палітыка кіраўніцтва “нацыянальнай” оперы?**

**Дзмітрый ЛЫБІН**
**кампазітар, музыказнаўца**

## Трымае асветніцкі кірунак

**Прыстойна было адзначана ў Гродне 70-годдзе з дня нараджэння літаратуразнаўцы, прафесара Аляксея Пяткевіча. Яго віншавалі калегі па кафедры беларускай культуры ГрДУ імя Янкі Купалы. Пісьменнік быў запрошаны на сустрэчу з удзельнікамі гісторыка-культурнага грамадскага аб'яднання “Паходня”. Вечарына з удзелам юбіляра была таксама наладжана ў Доме-музеі Максіма Багдановіча. Актыўнага грамадскага дзеяча А. Пяткевіча шчыра прывіталі сябры каардынацыйнага камітэта “Гродзенская ініцыятыва”.**

**На адрас пісьменніка было выказана шмат удзячных слоў за яго апошнюю кнігу — бібліяграфічны даведнік “Людзі культуры з Гродзеншчыны”, цвёрдую грамадзянскую пазіцыю і нястомную асветніцкую працу.**

## Лодцы роспачы няма месца

**Каманда гродзенскіх школьнікаў брала ўдзел у 17-й рэспубліканскай алімпіядзе па роднай мове, якая праходзіла ў Маладзечне. Атрымана больш дзесяці дыпломаў, тры ганаровыя граматы. Да ўсяго пераможцы атрымалі пэўную перавагу пры паступленні ў ВНУ, у якіх асноўным прадметам з'яўляецца беларуская мова. Вельмі верагодна, што гэты шанц ужо сёлета выкарыстаюць Вольга Шырына, Сяргей Ніканенка, Аляксандр Бохан, крыху пазней — Ганна Янкута і Ульяна Шубко.**

**Антон ЛАБОВІЧ**

Фелікс ШКІРМАНКОЎ

# Персанальная справа



НЯВЫДУМАНАЕ АПАВЯДАННЕ

ПРАЧНУЎСЯ Андрэй ад холаду. Адкінуў клапан спальнага мяшка, прыпадняў галаву і ўбачыў, што полаг палаткі — расшпілены, а спальны мяшок на суседнім лежаку — пусты. “Куды гэта Іван падаўся? Дамаўляліся ж спаць да абеду”, — здзіўлена падумаў Андрэй. Вылез з цёплага спальніка, адхінуў полаг палаткі і — зажмурыўся ад асляпляльна-яркага святла, што сцебанула па вачах: усё навокал было пакрыта бялютка-іскрыстай снегавой коўдрай.

“Ну, дзякаваць Богу, цяпер ужо з першым уючным транспартам будзем выбірацца на бераг Калымы, а там да пасёлка рукой падаць!” — з радасцю падумаў Андрэй.

Гэта быў яго першы палявы сезон. На выпускным вечары ў тэхнікуме, пасля ўручэння дыпломаў, ён ужо ведаў, што пасёлак, куды па размеркаванні праз дзень паляціць, — гэта край непарушанай гвалтам цывілізацыі прыроды. Яго чакаюць нялёгкія, але надзіва цікавыя геалагічныя маршруты. А потым прыйдзе і ўдача, і ён, Андрэй, абавязкова знойдзе ў глухім таежным распадку казачна багаты россып золата, і пра яго загавораць з павагай.

І засумаваў, калі ўжо на месцы даведаўся, што будзе працаваць у разведраёне, які вядзе дэталёвую разведку адкрытага ў самым канцы вайны радовішча жалезнай руды — гематыту з вельмі высокім утрыманнем жалеза, за што і далі яму назву “Пераможнае”. Зніклі мары аб прыгодах у шматдзённых маршрутах і засталася карпатлівая, часам нудотная, паўсядзённая праца з цяжкім, нязграбным дванаццацікілаграмовым радыёметрам, прымацаваным рамянямі на жываце. Было б зручней, каб ён быў вышэй, на грудзях, але тады цяжка было б сачыць за паказаннямі прыбораў на панелі радыёметра.

Быў і новы радыёметр — “Байкал”. У параўнанні з Андрэевым ён, як пёрка — нейкія два з паловай кілаграмы. Але з ім хадзіў сам начальнік — Іван Духаў. А паколькі ў атрадзе, акрамя начальніка, быў толькі Андрэй і адзіны рабочы, то вядома, што ніякага калектыўнага незадавальнення падначаленыя выказаць не маглі. Тым больш, што рабочы той быў звычайным “зэкам”, якога па заяўцы Духава адкамандзіравалі ў атрад на палявыя работы.

Яшчэ заставалася два гады да смерці Сталіна, і асноўнай рабочай сілай у геолагаразведчыкаў заставаліся “зэкі”. Гэта былі звычайна ўчарашнія калгаснікі, асуджаныя на 8-10 гадоў за некалькі кілаграмаў жыта ці буракоў, якія яны вымушаны былі ўкрасці, каб дзеці не зайшліся з галадухі.

Працавалі “зэкі” добрасумленна. Трапіць ім на палявы сезон да геолагаў лічылася падарункам лёсу, бо кожны дзень працы там залічваўся за тры. За шэсць месяцаў палявога сезона ў залік ішло паўтара года зняволення

Андрэй хуценька апрануўся, накідаў сухіх дроў у жалезную печку, зробленую з бочкі, і падпаліў. Спусціўся да ручая, прабіў пельку ў маладым лёдзе і зачэрпнуў вядром празрыстай вады разам з ільдзінкамі. Прынёс ваду ў палатку, наліў чайнік і паставіў яго на распалены ўжо да малінавага колеру верх печкі.

Рабіць не было чаго. Дзве ўючныя скрыні, тры скрынкі з радыёметрамі і дзве з каменным матэрыялам — уся атрадная маёмасць — была падрыхтавана да ад'езду. Начальнік разведраёна, маёр унутранай службы Ісакадзе, якога “зэкі” між сабой звалі “Ішакадзе”, абяцаў, што дасць так званы ўючны транспарт — коней. Нават прызначыў дзень. Але ўсіх коней паслаў з грузам керна буравых свідравін. Гэта азначала, што наступны транспарт будзе толькі праз дзесяць дзён, бо да берага Калымы, куды два разы на тыдзень прыходзіў катэр, было сто пяцьдзесят кіламетраў.

Каб жа гэта быў жнівень, ці хаця б пачатак верасня — можна было б і пачакаць. А то ж праз два дні — кастрычнік. Значыць, могуць па-сапраўднаму ціскануць маразы, па Калыме паплыве шуга і наўрад ці прыйдзе тады катэр, бо за два-тры дні рака стане.

Ад гэтых думак Андрэю зрабілася ніякавата. Ён лёг на спальнік, паспрабаваў у радыёпрыёмніку адшукаць якую-небудзь станцыю, але батарэі канчаткова селі. “Напэўна, Іван пайшоў да “Ішакадзе”, — нечакана падумаў пра Духава. — Можа, усё ж выб'е які-небудзь транспарт?”.

Духаў прыйшоў недзе а дванаццатай. Быў ён дзелавіта-заклапочаны. Знячэўку спытаў:

— У цябе калі кандыдацкі тэрмін заканчваецца?

— У снежні. А што?

— Рыхтавацца трэба да ўступлення ў партыю. Творы таварыша Сталіна ўважліва з алоўкам чытаць, каб мне не сорамна было за цябе на партыйным сходзе, а асабліва на бюро райкама У каго будзеш прасіць рэкамендацыі? — І, апераджаючы Андрэя, дадаў: — Я, як сакратар партыйнай арганізацыі ўпраўлення, не маю права, але буду падтрымліваць цябе на партыйным сходзе Так што рыхтуйся.

—Буду рыхтавацца, гэта не жартачкі

—Больш таго — гэта справа ўсяго жыцця!

Духаў падняўся, падышоў да печкі, працягнуў далоні бліжэй да цяпла, вярнуўся да стала і, стоячы быццам за сталом прэзідыума партыйнага сходу, сказаў:

—Слухай уважліва, Андрэй... Мяне тэрмінова выклікае першы сакратар райкама. Мяркую, што гэта звязана з падрыхтоўкай да раённай партыйнай канферэнцыі. Заўтра раніцай я і адпраўлюся. Ісакадзе дае каня, якога я павінен пакінуць на беразе. Прасіў яшчэ аднаго, каб забраць хаця б радыёметры, але адмовіў катэгарычна. Даў слова, што наступным транспартам цябе адправіць Ты ведаеш, што новы радыёметр “Байкал” сакрэтны, таму ні на адну хвіліну не пакідай без увагі...

Андрэй шчыра прапанаваў:

—Забірай яго з сабой, бо калі яшчэ я дабяруся!

Духаў на нейкі момант разгубіўся, але тут жа аргументаваў немагчымасць гэтага:

—А ты не падумаў, што я буду адзін? Усялякае можа здарыцца, нельга рызыкаваць! Ты ж пойдзеш з людзьмі. Я веру табе і ўпэўнены, што ты ў цэласці даставіш апаратуру ў пасёлак і здасі яе начальніку спецаддзела малодшаму лейтэнанту Тапаркову. — Духаў зрабіў паўзу і ўрачыста дадаў: — Лічы гэта не столькі маім загадам, а найперш — адказным партыйным даручэннем!

На пяты дзень пасля ад'езду Духава Андрэй дапамагаў каюру ўючыць атрадную маёмасць на коней. Але радасць была палавінчатай — транспарт ішоў толькі да конебазы разведраёна: знямоглых коней накіроўвалі на адстой, а гэта значыць, што застанецца яшчэ амаль сто кіламетраў да берага. Але аб тым, як дабірацца ад конебазы да берага Калымы, Андрэй не думаў. Галоўнае — ён на шляху да мэты, а там нешта будзе.

Конебазай загадваў спецпасяленец па мянушцы “Манах”, якому судом не было прызначана ніякага тэрміну, бо — не было суда. Пагрукалі аднойчы пад ранак, тыцнулі пад нос паперу, у якой паспеў прачытаць, што “Особым Совещанием” ён прызначаецца да этапіравання на спецпасяленне. За што і пра што — аб гэтым ані слова. Так і адправіўся ветэрынарны фельчар калгаса “Заваёвы Кастрычніка”, патомны селянін Петрашкевіч праз увесь Саюз спачатку па чыгунцы ў цялятніку, потым у смярдзючым труме па Ахоцкім моры ад Находкі да Нагаева, а далей пешшу на прызначанае яму месца спецпасялення.

Якраз у той час геолагі пачалі дэталёвую разведку знойдзенага радовішча жалезнай руды. Прыгналі “зэкаў”, і праз тыдзень у тайзе стаялі першыя баракі. Дарог не было. Транспарт толькі ўючны, на якім перавозілі ўсё: бурыльныя трубы, скрыні з буравым шротам, запасныя часткі. За паўсотню кіламетраў ад радовішча сярод трох вялікіх азёр знайшлі месца, дзе можна было нарыхтоўваць сена. Пабудавалі стайні, у якіх адкормлівалі два тыдні знясіленых коней. Вось сюды і трапіў па сваёй спецыяльнасці на пасяленне “Манах”.

Ужо ў першы дзень знаходжання на конебазе Андрэй зразумеў, што з “Манахам” яму не дамовіцца — коней ён не дасць, бо ўсім кіраваў не ён, а трое вохраўцаў, якія выконвалі службу аховы, а начальнікам для іх быў маёр Ісакадзе. Спроба Андрэя растлумачыць ім, што ў яго важны дзяржаўны груз, які трэба тэрмінова даставіць у пасёлак, мэты не дасягнула. У адказ ён пачуў ад мардатага амбала з яфрэйтарскімі лычкамі спачатку пакручастыя рускі мат, а потым: “Каб усё было так, як ты кажаш, дык маёр даў бы табе коней з разведраёна да самага берага, ці загадаў бы нам адправіць цябе”, — і ўсё.

Яшчэ праз дзень Андрэй зразумеў, што ён нікому не патрэбны: ні ў разведраёне, ні тут, ні там — у геалагічным упраўленні, і таму трэба спадзявацца толькі на сябе.

Увечары зайшоў яшчэ раз да “Манаха”. Нездарма ж кажуць, што калі чалавек тоне, то і за саломінку хапаецца.

—Вось што я табе скажу, — выслухаўшы споведзь Андрэя, пачаў няспешна “Манах”. — Гэтыя “вертухаі” тут — як на курорце, і твая біклажка спірту для іх — не знаходка, ім хапае самагону, які яны спраўна гоняць. Таму ні на якую рызыку не пойдуць, апасаючыся “Дзятла”, які калі што — абавязкова “стукне” “Ішакадзе”, а тады канец іхняму курорту. Спадзяюся, ты зразумеў, чаму я, разумеючы цябе, не магу даць коней... Але параду дам, а там — глядзі сам. Самае большае праз тыдзень Калыма стане, і тады табе чакаць тут альбо ў Ахмеда на беразе, пакуль з пасёлка да перавалкі не пачне хадзіць трактар. А гэта — не адзін тыдзень. Не губляй час, калі хочаш паспець, а заўтра ж зранку зрабі санкі, упрагайся і шыбуй да берага. Ногі ў цябе маладыя, трэніраваныя — за тры дні дойдзеш. Бяры з сабой толькі тое, што, як ты кажаш, нельга тут пакінуць. А ўсё, што пакінеш, я зберагу, не сумнявайся. Прамарудзіш — будзе тое, што я табе сказаў.

Клаўся спаць Андрэй у добрым настроі, бо ўжо прыняў рашэнне: возьме з сабой толькі радыёметр “Байкал”, дакументацыю і асабістыя рэчы, а ўсё астатняе пакіне ў каморцы “Манаха”.

Першыя пятнаццаць кіламетраў Андрэй прайшоў даволі лёгка. Палазы санак ён зрабіў шырокія, каб меней ўразаліся ў снег. А першай гадзіне спыніўся, расклаў вогнішча, успароў паляўнічым нажом бляшанку ялавічыны і з'еў, разагрэўшы, з сухарамі — хлеба не было. Заварыў моцнага чаю, добра насаладзіў і са смакам выпіў. Паглядзеў на гадзіннік і здзівіўся, як хутка бяжыць час — было ўжо пяць хвілін на трэцюю. Падняўся, накінуў шляю і пайшоў. За паўтары гадзіны, што заставаліся да цямна, разлічваў прайсці яшчэ кіламетраў дзесяць.

Ужо ў прыцемках знайшоў на самым беразе рэчкі, уздоўж якой пралягала ўючная сцяжынка, роўнае месца сярод палеглых кустоў кедравага сланіка і, не марудзячы, расклаў вогнішча. Утаптаў снег, дзе вырашыў спаць, накідаў зверху галля, прыкрыў яго аленевай шкурай поўсцю наверх. Павячэраў абрыдлымі кансервамі. Знайшоў амаль побач даволі тоўстую лясіну, адсек сякерай два даўгаватыя, больш чым па метры, палены і паклаў іх на вогнішча. Яны будуць доўга гарэць, а гэта і патрэбна. Скінуў кірзачы, каб даць нагам адпачыць. Потныя анучы абкруціў вакол халяваў і паставіў бліжэй да вогнішча, каб падсохлі. На ногі нацягнуў механыя шкарпэткі, апусціў і завязаў вушы шапкі-вушанкі, лёг спінай да цяпла і накрыўся байкавай коўдрай.

Заснуў Андрэй амаль адразу. І прысніўся яму сон, што ён ляжыць на беразе мора і знемагае ад спёкі. Асабліва чамусьці горача нагам. Ён спрабуе схаваць ногі ў пясок, але там яшчэ гарачэй. А сонца асляпляльна свеціць і ўжо нельга трываць страшэнную спёку І раптам усё знікла. Андрэй прахапіўся і ўбачыў, што ягоны ложак гарыць. Ён ускочыў на ногі, адкінуў прагарэлую ў некалькіх месцах шкуру, выхапіў амаль з агню боты з падсмаленымі анучамі.

Хуценька абуўся, агледзеўся і зразумеў, што адбылося. Ён зрабіў сабе ложак на схаваным пад снегам сухім галлі. Пакрысе сухія галінкі загарэліся, і агонь дайшоў да месца, дзе спаў Андрэй.

Паглядзеў на гадзіннік — было дваццаць хвілін на шостую. Папіў чаю, прывязаў да санак шкуру з коўдрай і, не марудзячы, выправіўся ў дарогу.

На чацвёрты дзень, калі па ягоных падліках да берага заставалася прыкладна 10-15 кіламетраў, сцяжынка раптам скончылася. Напэўна, ён недзе сышоў з уюч-

най сцяжынкі на старую аленевую і не заўважыў гэтага. Вяртацца і шукаць, дзе ён збочыў, калі засталося хады на тры-чатыры гадзіны, не захацеў. Вырашыў, што трэба звярнуць улева і ісці, пакуль не выйдзе да рэчкі, каб пасля трымацца толькі яе, бо менавіта ў вусці яе была перавалачная пляцоўка, і там жыў вартаўніком спецпасяленец з крымскіх татар Ахмед.

Але прайшла добрая гадзіна, пакуль Андрэй, выбіваючыся з сіл, выйшаў да берага рэчкі. Сапраўды, сцяжынка была тут. Конскія капыты выбілі даволі глыбокі след, які раўчуком пятляў між дрэў. Цягнуць санкі, трымаючыся гэтага следу, было цяжка: раз за разам яны чапляліся, і трэба было спыняцца і адчапляць іх.

Знямогшыся, Андрэй спыніўся. Тут рэчка праглядвалася метраў на сто, і ўсюды быў чысцюткі роўны лёд, зацярушаны снегам. “Во, дурань, навошта ж надрывацца на гэтай сцежцы? Па рэчцы трэба ісці!” — узрадавана падумаў Андрэй. Ён спусціўся на лёд, асцярожна зрабіў некалькі крокаў, ударыў нагой раз-другі — лёд быў моцны, а снегу ўсяго сантыметраў дзесяць-пятнаццаць. Вярнуўся да санак, сцягнуў іх на лёд, упрогся і пайшоў.

Ісці тут было намнога лягчэй. Але дарога была амаль удвая даўжэйшай, бо рэчка віхляла. Сям-там даводзілася перасякаць тоўстыя сукаватыя лясіны, што калісьці ўпалі і перагарадзілі рэчку.

Ён не чуў ужо ні ног, ні рук. Але ўпэўненасць, што засталося зусім нямнога, не давала яму зваліцца і адпачыць хаця б з паўгадзіны. Ногі падкошваліся, яго вадзіла ў бакі. Ён лічыў да дваццаці і спыняўся, каб адпачыць.

Уперадзе быў чарговы паварот. Дайшоўшы да яго, Андрэй убачыў, што праз рэчку перакінуты два бервяны, а паміж імі шчыльна ўбіты жардзіны. “Дык гэта ж Ахмедаў заездак! Прыйшоў! Засталося метраў сто пяцьдзесят!” Радасць перапоўніла яго. Ён адчуў такі прыліў сілы, што здолеў нават метраў дзесяць прабегчы. І раптам, калі да заездка заставаліся лічаныя крокі, лёд пад нагамі затрашчэў, і Андрэй праваліўся. Ледзь паспеў скінуць з грудзей шляю ад санак. Паспрабаваў ускараскацца на лёд, але ён не вытрымаў, і Андрэй ізноў апынуўся ў вадзе. Тут вада была яму толькі па грудзі. Адчуваў, што холад жалезнымі абручамі сціскае яго цела. Дно даволі крута ўздымалася ў бок берага, і Андрэй, разбіваючы лёд, што вісеў над вадой, прасоўваўся да берага.

Урэшце яму ўдалося ўспаўзці на лёд і стаць на ногі. Адцягнуў санкі ад пелькі і адчуў, што ватоўка на ім на вачах ператвараецца ў бронекамізэльку, а боты робяцца драўлянымі. Андрэй пабег, сутаргава глытаючы паветра, адчуваючы, як ледзяны холад сціскае грудзі.

Між дрэў убачыў свінцова-шэрую ваду Калымы і на беразе — дах барака, з коміна якога роўным струменьчыкам узнімаўся дым.

Клацаючы зубамі, уваліўся ў барак і пачаў зрываць з сябе ватоўку і боты.

Ахмед усё зразумеў. Дапамог Андрэю распрануцца. Зняў з цвіка ручнік і расцёр ягоныя грудзі, спіну, ногі, прыгаворваючы:

— Шайтан! Шайтан!

Потым наліў у драўляныя ночвы гарачай вады, насыпаў туды гарчычнага парашку і загадаў:

— Стаў ногі ў ночвы і як перастане пячы — скажаш!

Андрэй апусціў ногі ў ночвы і ледзьве не закрычаў — было нясцерпна горача. Ахмед сачыў за ім. Убачыўшы, што ён хоча падняць ногі, закрычаў:

— Дурной башка! Цярпець нада, калі хочаш, каб усё абышлося!

Потым узяўся націраць Андрэю спіну, прыгаворваючы:

— Тлушч мядзведзя, нутраны. Мядзведзь — яна ніколі не хварэе

Закончыўшы расціранне, спытаў:

— Пячэ ногі, не?

— Амаль што не

— Значыць, хопіць. А цяпер кладзіся ў ложак. Вось, апрані споднне — падаў Андрэю бялізну.

Андрэй паслухмяна выконваў усё, што яму загадваў Ахмед.

Накрыў ён Андрэя коўдрай з аленевых шкур, а зверху накідаў усялякага рыззя. Потым наліў паўшклянкі спірту і, падаючы Андрэю, параіў:

— Пі неразведзены, а зап’еш таматным сокам.

Андрэй так і зрабіў. Пякучая гарачыня апаліла горла, апускаючыся павольна ніжэй.

— Ну, вось і добра! А цяпер спі, заўтра будзе катэр. Спі, а я схаджу за тваімі санкамі

Андрэй прачнуўся на золку і першае, што адчуў — гэта звон у вушах. Круціла рукі, ногі, было цяжка дыхаць. Ён зразумеў, што ўсё ж захварэў — не дапамагло Ахмедава націранне і спірт. Андрэй паклікаў Ахмеда і папрасіў піць.

— Прачнуўся, тапелец? — падаючы Андрэю шклянку з вадой, добразычліва спытаў Ахмед. Паглядзеў уважліва, прыклаў далонь да ягонага лба. — Ой, шайтан, ды ты захварэў, гарыш увесь!.. Добра, што катэр сёння. Цябе трэба хутчэй у бальніцу — у мяне ніякіх лекаў няма

Андрэй адчуваў, што з ім адбываецца нешта незразумелае. Раптам перад вачамі ўсё паплыло, Ахмед пачаў завальвацца, і ўсё знікла

Калі прыйшоў катэр, Ахмед сказаў капітану, што ў яго ляжыць цяжка хворы геолаг, якога трэба як мага хутчэй адвезці ў бальніцу. Капітан паслухаўся, Андрэя занеслі ў кубрык, і катэр узяў курс на пасёлак.

Крызіс наступіў на пятыя суткі. Андрэй быў яшчэ слабы, калі да яго ў палату прыйшоў малодшы лейтэнант Тапаркоў. Андрэй не разумеў, аб якіх злачынных элементах вядзе гаворку малодшы лейтэнант, механічна адказваў на пытанні, гэтак жа механічна распісваўся на лістах, якія падаў яму Тапаркоў.

У канцы кастрычніка на дошцы аб’яў геалагічнага ўпраўлення можна было прачытаць паведамленне аб маючым адбыцца партыйным сходзе з парадкам дня: “Персанальная справа кандыдата ў члены ВКП(б) А. Лосіка”.

З кабінета ў кабінет папаўзлі неверагодныя чуткі. Гэта ж трэба: тэхнік-геолаг Лосік пакінуў сакрэтны, апошняй мадэлі радыёметр нейкаму спецпасяленцу, а сам прыйшоў у пасёлак! А той спецпасяленец аказаўся агентам амерыканскай разведкі! Калегі, сустракаючыся ў калідоры з Андрэем, нават яго ўчарашнія сябры ўсім сваім выглядам паказвалі, што спяшаюцца па неадкладнай справе.

Андрэй не ведаў, што ўсё пачалося з рапарта Тапаркова палкоўніку Дзятлаву аб тым, што тэхнік-геолаг Лосік перадаў у рукі варожага элемента — спецпасяленца Ахмеда новы сакрэтны радыёметр. Малодшы лейтэнант прапаноўваў арыштаваць Лосіка і ўзбудзіць крымінальную справу па артыкуле 58 Крымінальнага кодэкса СССР. Але, на Лосікава шчасце, палкоўнік Дзятлаў, адпусціўшы Тапаркова, запрасіў да сябе галоўнага геолага ўпраўлення Бабаева, якога геолагі за душэўнасць між сабой звалі Бабай. Той змог пераканаць палкоўніка, што начальнік спецаддзела вельмі перабольшвае віну Лосіка. Фармальна радыёметр “Байкал” уваходзіць у лік сакрэтнай спецапаратуры, але на самай справе ніякай каштоўнасці для варожых разведак не ўяўляе, бо прынцыповая схема “Байкала” ёсць у адкрытым падручніку “Радыёметрыя” 1948 года. Ён нават паклаў на стол палкоўніку дзве схемы — з інструкцыі да радыёметра і з падручніка.

Упэўніўшыся, што галоўны геолаг мае рацыю, палкоўнік, аднак, заўважыў, што нічога добрага не будзе, калі кожны тэхнік-геолаг пачне на свой капыл тлумачыць дзеючыя інструкцыі. Хітры Бабаеў пагадзіўся з палкоўнікам, што нельга гэты ўчынак пакінуць беспакараным, і прапанаваў перадаць гэтую справу на разгляд партыйнай арганізацыі, а крымінальную справу не ўзбуджаць. Палкоўнік не пярэчыў.

На сходзе сакратар партыйный арганізацыі ўпраўлення Духаў пранікнёна, з партыйный прынцыповасцю гаварыў аб трайной адказнасці кожнага камуніста ў час, калі англа-амерыканска-сіяністкія імперыялісты імкнуцца задушыць нас, развязалі халодную вайну, каб перавесці яе ў трэцюю сусветную. З гэтай мэтай яны вярбуюць сярод няўстойлівых грамадзян сваіх агентаў, сярод прыхаваных ворагаў савецкай улады і спецперасяленцаў — у першую чаргу.

Андрэй слухаў прамоўцу і не разумеў яго. І раптам пачуў:

— Таварышы камуністы! Учынак кандыдата партыі Андрэя Лосіка — гэта і мая віна. Ён быў маім падначаленым. Я не агаварыўся, сказаўшы, што быў. Я ўжо звярнуўся да кіраўніцтва ўпраўлення, каб Лосіку прадаставілі іншую працу, не звязаную з сакрэтнымі матэрыяламі. Я павінен быў больш прынцыпова паставіцца да яго, але не зрабіў гэтага. Каюся перад вамі, перад партыяй — я не здолеў разгледзець у ім тое, што прывяло да ганебнага для кожнага камуніста, увогуле для кожнага сапраўднага савецкага чалавека ўчынку. Хто-ніхто разважае, што гэта звычайная недысцыплінаванасць — вынік маладосці, адсутнасць вопыту. Я лічу, што гэта не што іншае, як здрада Радзіме. Пытанне трэба ставіць менавіта так, бо партыя заклікае нас у гэты небяспечны час да ўзмацнення палітычнай пільнасці, да маналітнасці партыйных радоў. Выкрыццё ў апошні час гнюснай зграі забойцаў-урачоў, агентаў амерыкана-сіянісцкай разведкі — яскравае таму пацвярджэнне. Таму я прапаную выключыць Лосіка з кандыдатаў у члены ВКП(б) як чалавека, што страціў палітычны давер

О, як хутка бяжыць час! І як доўга — часам дзесяцігоддзі — патрэбны людзям, каб убачыць сутнасць, схамянуцца і пакаяцца.

# КРАМОЛЬНЫ ВЕРШНІК

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

...Часта, успамінаючы гэты і наступныя за ім дні, усё, што сталася затым, Аляксей Мітрафанавіч неаднойчы — і як ішла яшчэ вайна, і асабліва ў апошнія год-два пасля яе — мучыўся бяссоннем, усё думаў: ці правільна ён зрабіў, што не паслухаўся цешчы, не зачыніў, не закалаціў дошкамі вокны школы, калі вёску пакінулі партызаны, і не падаўся ўслед за імі? Ён жа найперш сам партызан, хоць яму даручылі іншую, мірную справу. Аднак жа ведаў бы ён тады, як нечакана ўсё абернецца...

Пра немцаў, тых, якія калонай праехалі загуменнем, нейкі час не было ні слыху ні дыху. Куды іх панесла — адзін чорт ведаў. Хтосьці з жанок ля студні выказаў меркаванне: мо яны выпадкова трапілі на гэтую дарогу, а то і ўвогуле заблудзіліся і драпалі, ажно пяткі блішчэлі?

Неўзабаве, праўда, дайшла чутка, што партызаны высачылі іх, заманілі ў пастку і добра-ткі пакалашмацілі. Двое сутак нібыта — дзень і ноч запар — на ўскрайку пушчы грымеў бой.

У людзей зацяплілася надзея, што партызаны вернуцца зноўку, абароняць іх ад злыдняў. Ужо калі разбілі, знішчылі такую зграю, з такой іхняй тэхнікай і зброяй, то дзе-дзе, а ў Панізоўі ім нямашака чаго баяцца.

Партызаны і праўда праз колькі дзён завіталі ў вёску. Ехалі верхам на конях, ішлі пеша, ззаду цягнуўся ланцуг падвод... Усе, старыя і малыя, высыпалі на вуліцу, разглядалі лясных людзей і... нікога не пазнавалі. Так, гэта былі ўжо не тыя партызаны, якіх ведалі, з якімі звыкліся за некалькі месяцаў пастою.

Аляксей Мітрафанавіч, дазнаўшыся, што партызаны вярнуліся, шчыра ўзрадаваўся. Нарэшце-ткі цешча перастане калаціцца, ды і школьныя справы пойдуць лацвей.

Ён якраз быў у школе, у сваім невялікім дырэктарскім пакойчыку, карэкціраваў расклад заняткаў, бо “русічка” Ірына Сцяпанаўна загрыпавала, і трэба было спланаваць, хто б мог яе падмяніць на час хваробы.

Ля ўваходных дзвярэй, ужо з сярэдзіны, пачуліся гучныя галасы, грукат ботаў. Аляксей Мітрафанавіч адразу здагадаўся, што гэта нехта з партызанскага начальства, а мо і з былых сяброў. “Аднак маглі б і падалікатней, гэта ж школа, ідуць заняткі”, — падумаў незласліва.

Не дачакаўшыся, пакуль знойдуць ягоны пакойчык, ён адклаў паперы і першым рашыў выйсці насустрач гасцям. Выглянуў у калідор і... адразу сумеўся. Нікога ён не пазнаў. Іх было двое, адзін з аўтаматам, другі з наганам на баку. Аляксея Мітрафанавіча здзівіла, што тыя быццам і не спрабавалі яго знайсці, а, як укопаныя, спыніліся ля самаробнага, змайстраванага рукамі Мамонькі з негабляваных дошак, але акуратна аздобленага шпалернай паперай стэндзе, упіліся вачыма ў тое, што там было напісана і наклеена.

Аляксей Мітрафанавіч, яшчэ пакуль не заўважаны незнаёмцамі (ці мо тыя знарок прытварыліся, што не заўважаюць), не спяшаўся паказацца ім на вочы. “Хай пачытаюць, чаго ж. У нас усё чынчынам. Няма да чаго прыдрацца”, — падумаў сам сабе.

Ён назубок ведаў, што на тым стэндзе-дошцы. Справа, у самым нізе, каб і малечы няцяжка было пачытаць, калі хто часам забыўся ці паблытаў, значыўся пісаны рукою Ліны Іванаўны, яе роўным і акуратным почыркам расклад урокаў на ўсе дні тыдня. Зверху дошкі красаваўся намаляваны цёмна-карычневай фарбай загаловак: “Тое-сёе з нашае гісторыі”. Тут быў і даўні, трохі ўжо выцвілы і пацёрты малюнак Крамля з яго сівымі зубаверхімі сценамі і вежамі, і рэпрадукцыя карціны Рэпіна “Бурлакі на Волзе”, і помнік Пятру Вялікаму... Асобна, злева ніжэй — досыць выразная фатаграфія опернага тэатра ў Мінску, накід безыменнага мастака, на якім можна пазнаць Нясвіжскі замак Радзівілаў, побач — таксама малюнак святога крыжа Еўфрасінні Полацкай. Усе, і фота, і малюнкі, былі без подпісаў. Аляксей Мітрафанавіч знарок не хацеў гэтага рабіць. Лічыў: хто з вучняў чаго не ведае, хай спытае, так мацней і надзейней запомніць.

Пра гэтую дошку, яшчэ ў задуме, ён заікнуўся Ракутнаму, і той адобрыў, нават памог у тым-сім: недзе дастаў малюнкі і Крыжа, і некалькіх замкаў, якія былі яшчэ не зусім разбураныя. Паказаў і партрэцік Сталіна, хацеў таксама даць наклеіць на дошцы, але нечакана перадумаў і, нічога не сказаўшы, паклаў назад у сваю папку.

Аляксей Мітрафанавіч палічыў, што трэба ўсё ж падысці да гасцей, папытаць, мо што ім трэба. Наблізіўшыся, не стаў першы падаваць руку, адно павітаўся і назваў сябе:

— Я дырэктар гэтае школы. Мятліцкі Аляксей Мітрафанавіч. А вас які клопат прывёў сюды?

Незнаёмцы пераглянуліся, і той, што з наганам на баку, немалады, скуласты, у скуранай, спадыспаду на футры, тужурцы, замест прывітання працадзіў скрозь зубы:

— Што, не тых чакаў? Думаў, немчыкі твае, перад кім высільваешся, каму кадры рыхтуеш, заробак за старанне прывезлі? Так?

Аляксей Мітрафанавіч ад нечаканасці ажно хаўкнуў і адчуў, што не можа вымавіць ніводнага слова. Але хутка ўзяў сябе ў рукі і, ледзь стрымліваючы абурэнне, адно сказаў:

— Мы высільваемся перад дзецьмі. Нашымі дзецьмі. І палохаць мяне не трэба. Я такі ж партызан, як і вы. І выконваю заданне камандавання, якое да вас тут было. Заданне Ракутнага, начштаба нашай брыгады.

— З Ракутным таксам разбяруцца... — невядома на што намякаючы, пагрозліва перапыніў скуласты. — І гэта вам Ракутны параіў наклеіць? — Ён тыцнуў пальцам у ніз дошкі, пасля з перакошаным тварам павярнуўся да Аляксея Мітрафанавіча: — Развялі тут варожую агітацыю, немцам патакаеце!

— Як?! — вырвалася ў Аляксея Мітрафанавіча. Хацелася мацюкнуцца, павярнуцца і пайсці, але няўзнак вока ўпала на тое месца, дзе ўсё яшчэ трымаў палец скуласты. Аляксей Мітрафанавіч ажно спалатнеў: на дошцы, сярод іншых малюнкаў, быў наклеены невядома кім і калі малапрыкметны зводдаль малюначак герба “Пагоня”, выразаны не то з якой старой кніжкі, не то з забароненай і завезенай адкуль-небудзь газеты.

— Што, няма чаго сказаць? Скажаш, як міленькі скажаш... — чалавек у тужурцы памкнуўся садраць малюнак, але той не аддзіраўся. Тады скуласты рвануў на сябе ўсю дошку, і яна, пачэпленая толькі на два не вельмі моцныя цвікі, рухнула на падлогу, на ногі абодвум. Узвыўшы ад болю, скуласты піхнуў дошку ад сябе, пачаў таптаць.

Аляксей Мітрафанавіч не мог глядзець на гэтае глумленне, пайшоў па калідоры да кабінета. Там грузна апусціўся на стул, сядзеў не варухнуўшыся. У вачах не было больш чамусьці ні думкі, ні абурэння, анічога. Слаба даходзілі да ягоных вушэй і свядомасці словы таго, з наганам, кінутыя наўздагон яму, калі ішоў да сябе:

— Сёння каб і духу нічыйго ў памяшканні не было. Гэта загад. А цябе яшчэ знойдзем...

Аляксей Мітрафанавіч слаба чуў, як адгрукацелі ў калідоры боты, як злавесна бабухнулі ўваходныя дзверы.

**Рэдакцыя штотыднёвіка “Літаратура і мастацтва” выказвае глыбокае спачуванне намесніку старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку НІЧЫПАРОВІЧУ Станіславу Антонавічу з прычыны цяжкай страты — смерці жонкі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне намесніку старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку НІЧЫПАРОВІЧУ Станіславу Антонавічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю жонкі.**

**Калектыў Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь смуткуе з прычыны заўчаснай смерці скульптара Уладзіміра Міхайлавіча ЛЕТУНА і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім.**

**Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы смуткуюць з прычыны смерці беларускага скульптара Уладзіміра Міхайлавіча ЛЕТУНА, даўняга сябра і прыхільніка музея, і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

Ігар ПРАКАПОВІЧ

# Казка для сяброў

Жыў-быў у адной Белай краіне просты Малец Петручук Акулін. Волас у яго быў Кудравец, Белы, нават Бяляцкі, але не Сіўко і не Сіўчыкаў. Еў ён па два Баршчэўскія, ладную Карпенку ды рыбу Сом, глытаў за абедам Булыку і запіваў яе Кісялёвым з Сахарчуком. Не быў Петручук Бугаёвым, але і Карлюкевічам яго ніхто не лічыў. Але ж меў ён вялікі Галавач з разумным Мазго, а таксама вельмі любіў Праўдзіна, паважаў Законнікава і Правасуда, чуў пра законы Давыдава і Майсеева. Як і ўсе, ён троху Грахоўскі, і хоць не давяраў Паповай і Папковічу, але штотыдзень спавядаўся перад Бажко. За гэта яго і паважалі.

Ды панадзіўся ў тую краіну Белую лятаць ці то змей, ці то Віж. Каб жа толькі лятаў, а то Ламан Дамашэвіч, Кусянкоў Казлоў, Казько, Казловіч і Авечкін, налаждваў Дэбіш, прымушаючы Гарановіч добрых людзей: Алексіевіч, Багданкевіч, Васілевіч, Даліловіч, Левановіч, Марціновіч, Пашкевіч і іншых евіч і овіч.

—А Нафрановіч нам гэты змей? — думалі ўсе, але трывалі.

Аднойчы Пазнякоў у канцы Маеўскай перад Сёмухай, калі на небе стаяў Ветах, да Петручка зайшоў невядомы Бадак з Бельскім Кудлачовым Барадуліным.

—Ты хочаш, каб твой край быў Вольскі? — Казанаў ён.

—Натуральна, — Букчын Петручук.

—Тады бяры Танк і паболей Жалязоўскі. Будзеш За рэмба. Паедзеш у Айзенштадт. Там пад Кудласевіч Дубоўскім, дзе расце Агняцвет, схавана Каробкіна, у якой сядзіць Зайцаў, у ім — Голуб, а ў Голубе — Зуб. Вось там і смерць змеева. Для смеласці даю табе два Рублеўскія і Капу Шэлегаў, а каб не зблудзіў — Глобус.

І толькі Аксакал выйшаў за дзверы, Петручук шась у Крамко, а адтуль у Кабаковіч. А там — поўны Шабовіч! Дружбакі Савоська Кавалёў, Санько Афанасьеў, Тарас Паўлаў, Андраюк Емяльянаў ды Валодзька Кірылаў разліваюць Гарэлікаву ў Чарказяны ды Чаркасавы, закусваюць Скарынкінымі ды запіваюць Сідаруком.

Толькі раніцай Някляеў як Савік, Стома і Сіпакоў вярнуўся Петручук дадому і заваліўся спаць. Праз тры дні Будзінас яго Дзятлаў, які Бубнаў Дзюбай у акно.

—Трэба бараніць край, — успомніў Петручук.

Апрануў ён Куртаніч Тулупаву, абакрыўся Дранько Башлаковым, падперазаўся Дзеружынскім, нацягнуў на галаву Каско і, падышоўшы да стала, на Аркушы паперы Пісарык невялікі Пісьмянкоў: "Калі загіну, то прашу лічыць мяне нацыяналістам".

Пасля гэтага ўзяў Дубінку, сеў на Конева і паехаў шукаць Прыгодзіч. Спачатку ехаць было Лягчылаў, бо шлях ішоў праз Бароўскага, дзе весела спяваў Пташнікаў, пераляталі з адной Галіноўскай на другую Гіль і Гілевіч, высока ў Галубовіч небе плылі Арлоў і Сакалоўскі. За невялікім Ялоўчыкам пачаўся Дуброўскі, у якім раслі Каліна, Ліпскі, Вярба, Явар і даволі многа Каштанаў. Падбярэзкі сядзелі як радня Баравік з Баравіковай... У пяску пры дарозе кошкаўся вялікі Верабей і купка меншых Вераб'ёў; воддаль, на Ракітным кусце сядзелі Воран з Варановічам, а пад імі, аблізваючыся, Ліс з Лісіцыным.

—Кепскія знакі, — падумаў Петручук.

І сапраўды, калі Воюш спусціўся з Вяршыніна ў Загорскую нізіну, то шлях адразу стаў Коўзкі, Жыжэнка, траплялія ладныя Лужкоўскія і вялікія Лужаніны. Аколава дарогі ўзвышаліся агромністыя Камейшы. Петручук стаў Хвалей і нават троху Арабейка. Нізка над ім праляцеў Каршукоў з вялізным Когутам. Воюш саўсім Арабей, калі ўбачыў пры дарозе Зніч, а каля яго трох ці то Зэкаў, ці то Бічэль. Адзін быў Бяспалы, другі — Крываль, а трэці такі Карамазаў, што і не разабраць. Яны сядзелі ля вогнішча, Курылёва Канапельку, патроху Кірэйчык ці то Шніп, ці то шнапс на Чамярыцкім настоі, елі Ракаў ды закусвалі Цыбульскім з Гнілямёдавым.

—На, Сваяк, пацягні, — прапанавалі яны Петручку, — будзеш дужы як Быкаў і рэактыўны як Турбіна.

Пітво аказалася Кіслік і густым як Пацюпа. Петручук адчуў, што стаў хутка Пухаеў. Радасны ад таго, што яму не зрабілі Жарнасек, а наадварот, Наталіч смагу і далі Сільнову, паехаў наш герой далей. Каля Пруднікаў цягнулася Забалоцкая твань, ля якой роем мітусіліся Жукі, Жуковіч, Камароўскі, Мушынскі. Стаяў поўны Глушакоў, толькі недзе далёка ў нетрах вухаў Савіцкі ды ля Чарота сакатала Сарока.

Раптам з-пад Лапушына, як з-пад зямлі, выраслі перад Петручком Рагойша Ляшук і Рагуля Ляшонак. Першы быў дужа Махнач і Мазур, а другі Марчук Прануза і Вярцінскі.

—Згуляй з намі ў Казыра: калі ты выйграеш, то атрымаеш Мехаў залатога Наварыча, а калі мы, то аддасі нам Конева, а сам пойдзеш Пяшко.

—Ну чаго захацелі Рагаўцовы Ляшкі! Я вам не Маскаленка і не Русецкі, а патомны Мінскевіч. І гэтым Гардзіцкі! Як Скабляну зараз Дубаўцом, дык абодва Капыловічы адкінеце!

— І ляшкоў як Мятліцкі змёў, толькі Пяткевіч бліснуў.

Задраўшы нос, сам сабой Гардзей, паехаў Петручук далей. Лес перайшоў у Бур'ян, стаў прыціскаць Марозаў.

"Напэўна, хутка Айзенштадт", — падумаў Воюш, бо Мароз крапчэў, а ўперадзе ўсё стала Бельскім.

Неўзабаве пад'ехаў Петручук да вялікага возера, пасярод якога віднеўся Астраўцоў, на якім на высокім Гурскім стаяла ці то Хатэнка, ці то Палац. Ля берага Рыбак лавіў на Шыціка рыбу.

—Эй, Ваданосаў, як мне дабрацца да Астраўцова? — прывітаўся Воюш.

—Сядай на Крыгу і плыві, — быў адказ.

Петручук так і зрабіў. На востраве сапраўды быў ледзяны горад-палац з Бялячыц Варатынскай. Каля яго рос магутны Дубоўскі, на якім сядзелі, натапырыўшы вушы, Шашкоў і Сабалеўскі. Пад дубам цвіла кветка Агняцвет.

Каля палаца ў абдымку з Чарняўскі Лялько ляжаў змей. Закаханая парачка Курыла, абменьвалася Бусько і слухала Маляўку Муравейку, які Дудзюк у Дударава.

Петручук стаў Сердзюкоў.

—Ну што, змей, не Ждан мяне? Я прыйшоў, каб скінуць з тваёй паганай галавы Коўтун. Спачатку я цябе Разанаў, а потым — Жыгуноў. І застанецца ад цябе толькі Парахневіч.

—А хто ты такі? — пацікавіўся змей.

—Я — беларускі Конан на літару "П"! Зраблю табе зараз Шах і патаву сітуацыю.

—Ты — Панчанка?

—Неа.

—Пашкевіч?

—Неа.

—Петрашкевіч?

—Неа.

—Пецюкевіч?

—Не, змей, ты не адгадаў, і таму мусіш, як гэта гавораць у вас у Айзенштадце, сказаць гэтаму свету "Auf wiederseen!"

Змей спужаўся ягоных нямецкіх словаў з моцным Мінчанка-акцэнтам і палічыў за лепшае схавацца ў палацы.

—Пятрук, смерць змеева — пад маім карэннем, — Кажа дуб і ад гэтых слоў Агняцвет замярзае. Петручук раз Пракаповіч, два Пракаповіч, і ўжо Пракопчык ладную яму, як тут раптам...

*(Працяг будзе)*

ПАРОДЫІ

Уладзімір ДУКТАЎ

## Мімаходзь

Лепш за напісанае захоўваецца толькі надрукаванае.

❑

Мае талент ставіць людзей у залежнасць ад сябе.

❑

—Начальнік ваш нейкі ненармальны: крычыць—бы як пацярпелы,— кажа наведвальніца сакратарцы.

❑

—Стаю надзейна, як Пізанская вежа,— казаў п'яны мужычок.

❑

Рыбакі ходзяць у адпачынак у ліпені (ночы цёплыя), грыбнікі — у жніўні, а бедакі— калі давядзецца.

❑

—Як жывяце-маецеся?
—Скажу, што добра,— не паверыце. Скажу, што кепска,— не дапаможаце. Таму лічыце, што не жыву.

❑

—Як жыццё, настрой?
—Жыццё такое, што настрой розны.

❑

—Як справы?
—Падшываюцца.

❑

Добра, калі некаму зрабіў прыемнае. Але нашмат прыемней, калі нехта робіць прыемнае табе.

❑

—Як, Максімаўна, ваш сынок адведвае вас калі-нікалі?
—Не, зусім вачэй не паказвае. Відаць, другая сігнальная сістэма не спрацоўвае ў яго, таму і забыўся пра бацькоў.



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

Анатоль ЗЭКАЎ

## Забытая рыфма

*Ахвота вам у рыфму гаварыць!*
*Я асабіста пра яе забыла.*
*Магчыма, перагрэўшыся,*
*Астыла,*
*Нібыта прас, што у куце стаіць...*

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

***Калісь і я пісала ў рыфму.***
***Варочаўшы, як глыбы, словы,***
***Ішла паўз іх, нібы праз рыфы,***
***Каб звон радка быў адмысловы.***
***Было, што не піла й не ела,***
***Абы за хвост схапіць удачу.***
***Так галава тады гудзела***
***І, нібы прас, была гарачай.***
***Згадаю час той: Божа мілы,***
***То ж чым займалася, дурніца!***
***...Да рыфмы я, як прас, астыла.***
***Затое як жа добра спіцца!***

Нічыпар ШЭРАНЬКІ

## Дачасны ўспамін

*Ці ўспомніш гадоў праз дзесяць,*
*Што быў у цябе паэт?*

**Мікола ШАБОВІЧ**

***Вянок пачуццяў так суладна плёў,***
***Ды ён праз тыдзень, любая, прывяў.***
***Каханне — гэта згуба каралёў,***
***А я праз месяц сэрцам акрыяў.***

***І ўжо другой падобны звіў вянок.***
***І з трэцяю прайшоўся за сяло.***
***Ды абвясціла першая: — Сынок!***
***Аж на хвіліну дых пераняло!***

***Убок штурхнуўшы стос паэм і од,***
***Угнуўся так, аж уваччу мігціць:***
***Успомніла! — мне васемнаццаць год***
***Ёй аліменты прыйдзецца плаціць.***

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

### Няма таго...

***Маліўся зранку дзед,***
***Ледзь не разбіў чало.***
***— Дай, Божа, на абед***
***"...таго, што раньш было".***

### Слушная парада

***— Дзе талія? —***
***Скрывіўся Бегемот***
***І жонцы даў параду:***
***Альбо ўцягні жывот,***
***Альбо раздайся ззаду.***

### Калі здаецца...

***Упёрся,***
***біў хвастом Тунец,***
***Аж вуда напіналася.***
***Здавалася яму:***
***Ка-нец!***
***Ды аказалася,***
***што не здавалася.***

### Прывід законнасці

***Прасіла Мыш,***
***як Кот зубамі кратаў:***
***— Дазволь спярша***
***звязацца з адвакатам.***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ,
Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Алесь ГАЎРОН — *адказны сакратар,*
Мікола ГІЛЬ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Яўген РАГІН,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2806
Нумар падпісаны ў друк 24.5.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2912

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12